# ДАЙНЫ

*Латышскія народныя песні*



ББК 82.3Лат-6
Д 14

Пераклад зроблены паводле выданняў:

Latvijas PSR Zinātņu akadēmija. Andreja Upīša valodas un literatūras institūts. Latviešu tautas dziesmas.— Rīga: Zinātne, 1979—1982.— I — IY s. (ZA).

Latvju tautas dainas: (Redigējis J. Endzelīns).— Rīga: Literatūra, 1928—1932.— I — X s. (E).

*Priede G.* Latvju dainas Krišjāņa Barona kopojuma 1894—1915: Izlase.—Rīga: Liesma, 1982.—214 lpp. (GP).

*Drīzule R.* Dziedot mūžu nodzīvoju: Izlase.— Rīga: Zinātne, 1970.— 320 lpp. (RD).

*Arājs K.* Dainas: Krišjāņa Barona "Latvju dainu" izlase.— Rīga: Zinātne, 1983.— 352 lpp. (KA).

*Ancītis V.* Latvju dainu izlase.— Rīga: Zvaigzne, 1984.— 234 lpp. (VA).
*Абызов Ю.* Латышские дайны. Latvju dainas.— Рига: Лиесма, 1984.— 304 с. (Аб).

Д $\frac{4702340200—013}{М302(05)—87}$ 151—86

# Век жыву я з песняю

Многія еўрапейскія народы ўжо стагоддзі маюць сваю пісьмовую літаратуру. У латышоў, якія жылі пад прыгнётам нямецкіх феадалаў, яна ўзнікла толькі ў сярэдзіне XIX стагоддзя. Адзіны сведка эстэтычных поглядаў латышскага народа, яго духоўнага свету, звычаяў, жыццёвага ладу ў гістарычным мінулым — багаты фальклор. Асабліва многа ў ім песень. Даўно ўжо вучоныя другіх народаў, якія мелі магчымасць пабыць сярод латышоў, адзначалі, што латышы ўмеюць складаць песні, робяць гэта лёгка, натуральна. Так, прафесар гісторыі Юр'еўскага універсітэта Ф. Меній у XVII стагоддзі піша, што латышы, як ніхто іншы, здольныя імправізаваць і спяваць песні. Нешта падобнае сказаў пра гэта ў пачатку XIX стагоддзя нямецкі гісторык Я. Колт: «Сапраўды, цяжка знайсці ў Еўропе народ, які б так заслугоўваў называцца паэтычным народам, і зямлю, якая б так заслужыла называцца паэтычнай зямлёй, як маленькі латышскі народ і латышская зямля... Кожны латыш нараджаецца паэтам, кожны складае вершы і песні, кожны ўмее іх спяваць».

Зусім іншыя погляды былі ў прыбалтыйскіх немцаў-памешчыкаў і іх ідэолагаў-святароў-свяшчэннікаў, якія або не заўважалі песень сваіх падняволеных, або лічылі іх грубымі, бязглуздымі. Карэнным чынам змянілася становішча ў XVIII стагоддзі, калі ў еўрапейскіх краінах узрасла цікавасць да фальклору. Адным з першых, хто адзначыў каштоўнасць латышскіх народных песень і значэнне збірання, быў дзеяч нямецкай асветы паэт Ё. Г. Гердэр: «Іхнія песні — гэта народны архіў, у якім прадстаўлены іх навука, рэлігія, унутраныя перажыванні, гістарычныя падзеі, жыццёвыя радасці і бядоты».

Самі латышы пачалі запісваць свой фальклор толькі ў другой палове XIX стагоддзя, калі фарміравалася новая латышская інтэлігенцыя, якая

выступіла за ўмацаванне сваёй нацыянальнай культуры і, натуральна, што разглядвала вусную народную творчасць як фактар, які садзейнічае росту нацыянальнай самасвядомасці і развіццю нацыянальнай мовы і літаратуры. Найбольшая заслуга ў гэтым належыць Крышанісу Ба́рану (Barons, 1835—1923), выдатнаму дзеячу латышскай культуры, самаадданаму пісьменніку і фалькларысту, які збіраў і сістэматызаваў латышскія народныя песні сорак пяць гадоў свайго жыцця.

Першы том Збору латышскіх народных песень «Латышскія дайны», які сабраў і склаў Кр. Баран, выйшаў у 1894 годзе ў Рызе. Выпуск наступных тамоў апынуўся пад пагрозай — не хапала сродкаў на выданне. Крыху пазней гэтую работу працягвала Пецярбургская Акадэмія навук. Да 1915 года выходзіць у свет адно з найбольшых у свеце выданняў народных песень у васьмі тамах. У іх змешчана 227 996 дайнаў. Мы можам больш-менш зразумець, якую самаахвярную працу правёў Кр. Баран, калі возьмем пад увагу, што большую частку песень трэба было не толькі сабраць, але і апрацаваць, перапісаць іх ад рукі, навукова сістэматызаваць іх. «Дзе можна было б знайсці ў народзе другога такога дзеяча, які праявіў бы такую высакароднасць душы, бескарыслівасць і ўсведамленне важнасці сваёй працы,— пісаў пра Кр. Барана пасля яго смерці латышскі паэт Карліс Круза.— Спакойна і ясна глядзім мы сцяпер на работу, якой прысвяціў сваё жыццё Сівавалосы Бацька. У гэтай рабоце — наша мінулае, барацьба і дасягненні. Тут чуецца песня нашага першага пасечніка, калі пасярод векавечнага лесу на сонечнай паляне ён сее першыя зярняты, тут жалобна гучаць першыя калыханкі нашай маці, калі яна на беразе ручая супакойвае сваё дзіця, тут весела пераплятаюцца матывы старадаўніх карагодаў, тут чутны водгукі радасці светлага юнацтва, тут калышуцца прыгожыя народныя мелодыі, выпешчаныя і пранесеныя праз тысячагоддзі... Мы чуем стогны народа з часоў змрочнага нявольніцтва, глыбокія ўздыхі, смутак і жаль... Але над імі ўзвышаецца вобраз нашага Сівавалосага Бацькі, вернага ахоўніка народнай святыні».

Кр. Баран лічыў найболей мэтазгодным пакласці ў аснову класіфікацыі народных песень плынь чалавечага жыцця, таму што яму прысвечана пераважная большасць песень, часцей за ўсё

яны звязаны з канкрэтнымі жыццёвымі выпадкамі. Гэты прынцып захоўваецца ў далейшым пры выданні многіх другіх зборнікаў народных песень, у тым ліку і зборніка, які прапануецца беларускаму чытачу. Па традыцыі, яшчэ ўстаноўленай Кр. Баранам, ён адкрываецца песнямі, якія прысвечаны спяванню, як даніна вялікай павагі песні ў жыцці латышскага народа і таму, што, кажучы словамі дайны, латышы з песняй нараджаюцца і з песняй сваё жыццё праводзяць.

Пераважную большасць латышскіх народных песень складаюць харэічныя чатырохрадкоўі. Частка песень складзена дактылічным памерам, але іх нямнога, і ў асноўным гэта абрадавыя песні. Чатырохрадкоўі вельмі змястоўныя, з 2—4 словамі ў радку, з лёгкім музычным гучаннем, якое надае ім меладычнасць. Такая форма адточвалася на працягу доўгіх стагоддзяў, як найбольш зручная для спантаннай імправізацыі, для складання і ўзнаўлення ў патрэбны час, як водгук на жыццёвыя з'явы ці проста каб не адстаць ад другіх спевакоў; пры гэтым ствараецца драматычны сюжэт, напрыклад, пры абрадавым спяванні.

У больш доўгіх песнях, дарэчы, іх у латышоў вельмі мала, пераважае бытавая тэматыка. Гэта песні рыбакоў, дзе сястра шукае свайго брата, які патануў, пра адыход на вайну ці вяртанне, песні пра выкраданне маладой і праследаванне скраднікаў, карагодныя песні. У іх героі не маюць уласных імёнаў. У асноўным увага тут удзяляецца самім з'явам, фактам, перажываннямм.

У латышоў няма эпічных песень пра вядомыя гістарычныя падзеі, бітвы, герояў. Тлумачыцца гэта па-рознаму. Раней прытрымліваліся думкі, што эпічныя песні аб героях у старажытнасці маглі спяваць адмысловыя спевакі, гусляры. Аднак, калі ў XIII стагоддзі нямецкія захопнікі заняволілі латышоў, гусляры зніклі, не стала і песень. Выказваліся і другія думкі, што ў латышоў калісьці мог быць міфалагічны эпас, але ён распаўся на шэраг асобных песень. Абодва погляды не маюць дастатковага абгрунтавання. Сучасныя латышскія фалькларысты лічаць, што ў латышоў, як і ў многіх іншых народаў, эпічных песень наогул ніколі не было, таму што кароткія песні болей адпавядалі іх спосабу жыцця і гістарычным абставінам, калі старажытныя плямёны на працягу стагоддзяў жылі адасоблена ў цяжка даступных мясцінах.

Аснова латышскай народнай песні — чатырохрадкоўе — класічны прыклад лаканічнасці. Думка ў ёй выказана так, што няма нічога лішняга, ёсць толькі самае неабходнае, выказанае скупымі сродкамі, якія, аднак, ствараюць шырокае абагульненне з багатым падтэкстам, якім перадаюцца як перажыванні самога спевака, так і яго этычныя і эстэтычныя погляды.

Нярэдка глыбокі сэнс крыецца ў адным толькі слоўцы, якое чытачом другога народа не ўспрымаецца, застаецца нямым, што стварае вялікую цяжкасць для перакладчыка. Так, напрыклад, усё бязмежна добрае, прыгожае, любае, высакароднае ва ўсведамленні латышоў спрадвеку асацыіруецца з іх самым любімым колерам — белым. Добра тое, што чыстае, што белае. У латышскіх песнях гаворыцца пра белую маці, пра белага брата, пра белыя дні, дзяўчына ідзе як быццам пакрытая белым снегам. Сустракаюцца і іншыя характэрныя сімвалы, алегорыі. Так, сімвал мужнасці, адвагі і статнасці — дуб, сімвал жаноцкасці — ліпа. Часам дзяўчыну параўноўваюць з курапаткай, пліскай.

Другая адметная рыса стылю латышскай дайны — стрыманы паказ пачуццяў, якія не дэкларуюцца шырокім жэстам усяму свету. Гэта стрыманасць паўночнага народа, якая вызначае асаблівасць нацыянальнага характару латышоў.

Большасць запісаных песень адносіцца да перыяду змрочнага феадалізму. Але яны ярка аптымістычныя. Такі характар латышскага фальклору. Радасць — гэта закон, лекі ад усіх хвароб. Радуйся — хоць бы сонечнаму праменю, які раптам выбліснуў з-за хмары. У латышоў, як і ў некаторых іншых прыбалтыйскіх народаў, ёсць даўняя прывычка: не ўпамінаць зла, не скардзіцца, не плакаць, усе цяжкасці адольваць сваімі сіламі, ні ад кога не чакаць дапамогі. Усе латышы ведаюць песню пра вялікае гора, якое кладзецца пад камень, цераз які пераступаюць з песняй. У многіх песнях чуюцца водгукі думак, падобных гэтай:

*Чым цяжэй мне, чым гаротней,*
*Тым званчэй я заспяваю,*
*Тым званчэй я заспяваю,*
*Слёзы выціраючы.*

Знемагаючы на працы з раніцы да цёмнай ночы, «мачаючы ў крынічную ваду зачарсцвелы

хлеб з мякіны», народ у песні пераносіцца ў іншы лепшы свет, песняй выказваючы свае мары і спадзяванні. Народны паэт Ян Судрабкалн пісаў: «Жыццё сціплага працаўніка аднастайнае і беднае, але безыменныя аўтары дайнаў марацъ аб прыгожым, чакаюць яго і спадзяюцца, што яно прыйдзе. І ўсё наваколле расцвітае, іграючы ўсімі колерамі вясёлкі. Шчодрай рукой старажытны паэт рассыпае перад намі камяні-самацветы, золата і серабро. Так, марскія хвалі гайдаюць залатыя каменьчыкі, вецер калыша лісце ў гаі, дзе праходзіць дзяўчына-сірата, лісце з чыстага серабра. Мы бачым у канюшні залатыя вушакі, медную падлогу і сярэбраныя яслі. З залатой палачкай у лапках лётаюць па белым свеце пчолкі, сярэбранай вадою з ручая поіць коней сялянскі хлопец. Дзяўчына ў палатнянай кашулі і ў лапцях сядзіць у дымнай, закурэлай хатцы, тчэ і адзявае ўвесь свет у шаўковыя і залатыя строі і гаворыць светлыя і чуллівыя словы пра каханне і дружбу...»

У большасці латышскіх народных песень паэтызуецца як галоўны крытэрый каштоўнасці чалавечага жыцця — праца. Праца — аснова асноў эстэтыкі латышскага народа. Жыццё без працы — не жыццё. Паўнацэнна жыве той, хто працуе.

*Дай жа, божа, так памерці,*
*Як і татка, мамачка:*
*Татка — жыта малаціўшы,*
*Мамка — цеста месячы.*

Нават на тым свеце ў дайне чалавек працуе: араты арэ нябесную раллю, бацька весяліцца і пасе коней, маці падмятае залатым венікам нябесныя дарогі, бабуля збірае ўнучкам пасаг. Без працы ў народнай песні латышоў не застаецца і сам бог. У міфалогіі народаў свету яму часта прыпісваецца такая якасць. Нават Сонца і Месяц у латышскім фальклоры маюць сваю работу.

Песня заўсёды была з латышом ва ўсіх яго штодзённых клопатах. Песня была з ім і ў святы. Большасць святочных песень звязана з двума цыкламі сонцастаяння: зімовае — каляды, летняе — Іванаў дзень. У латышоў, як і ў многіх іншых народаў, быў звычай адзначаць дзень зімовага сонцастаяння шэсцем пераадзетых або «цыганоў». Людзі надзявалі маскі жывёл, ішлі ад хута-

ра да хутара, сцябалі гаспадароў дубцамі, каб яны былі заўсёды здаровыя і не ленаваліся. Пераапранутыя скакалі вакол садоў, каб зямля радзіла.

Але самае вясёлае, радаснае, цікавае і багатае было «свята Яна», дзень летняга сонцастаяння — купалле ў беларусаў. Яго чакалі, да яго рыхтаваліся загадзя. Гаспадар варыў піва, гаспадыня рабіла «Янаў» сыр з кменам, дзяўчаты і дзеці плялі вянкі, упрыгожвалі імі ўдзельнікаў свята, хаты, жывёлу. Як і ў беларусаў, дзяўчаты пускалі вянкі на рацэ, гадалі на суджанага. Каб на полі вырас багаты ўраджай, каб самі былі працавітыя і старанныя, людзі цэлую ноч, спяваючы песні, хадзілі ад хутара да хутара, гаспадар — «Янаў бацька» — частаваў спевакоў півам, а гаспадыня — «Янава маці» — сырам. Удзельнікі свята — «Янавы дзеці» — абыходзілі з песнямі палі і лугі, каб прагнаць нячыстую сілу. Хлопцы і дзяўчаты чакалі, калі ў поўнач у залатой імгле распусціцца дзівосна прыгожая папараць-кветка і хто яе ўбачыць, у таго ўсё задуманае здзейсніцца. Незвычайная сіла была не толькі ў «Янавых траў», якімі ўдзельнікі ўпрыгожвалі сябе, але і ў расы, якая выпадала ў ноч на свята. Дзяўчаты ўмываліся ёю, каб быць белымі, прыгожымі. Расу збіралі, каб лячыць ёю розныя хваробы. Па расе пускалі авечак, каб воўна ў іх была белая. Усе гэтыя і іншыя вераванні жывуць у песнях пра Яна. Яны не страцілі сваёй папулярнасці і сёння. Латышы сустракаюць імі дзень летняга сонцастаяння.

Збіранне латышскіх народных песень, якое пачалося ў мінулым стагоддзі, працягвалася і ў наступныя гады. Ужо сабрана больш за 1 200 000 песень, амаль столькі, колькі латышоў пражывае ў Савецкім Саюзе. Таму прынята гаварыць, што ў кожнага латыша свая песня. Акадэмія навук Латвійскай ССР прыступіла да акадэмічнага выдання Збору латышскіх народных песень у 15-ці тамах.

Латышскія народныя песні на беларускую мову пераклаў Пётр Масальскі, беларус, які жыў амаль усё сваё жыццё ў Латвіі і з дзяцінства палюбіў яе фальклор. У 20—30-я гады ён быў актыўны ўдзельнік беларускай культуры ў Латвіі.

*Мірдза Абала*

*Хто ўсе песні можа спець*
*І ўсе словы выказаць?*



Нарадзілася я з песняй,
Век жыву я з песняю,
З песняй-плачам пахаваюць
На пясчанай горачцы. GP — 3

Хто ўсе песні можа спець
І ўсе словы выказаць,
Палічыць на небе зоркі,
З мора гальку вынасіць? GP — 38

Дзе ішла і дзе хадзіла,
Не была засмучаная:
З песняй жыта ў полі жала,
Пытлявала — з песняю. ZA — 1215

Чым цяжэй мне, чым гаротней,
Тым званчэй я засяваю,
Тым званчэй я засяваю,
Слёзы выціраючы. GP — 11

Я радзілася ў матулькі
Салавейкі як спявалі:
Хопіць песень, каб спяваць,
Хопіць слоў, каб гутарыць. KA — 1188

Хопіць песень у мяне
На ўсё лета доўгае:
Іх з клубка вялікага
Па адной размотваю. ZA — 16

Не падумайце вы, людзі,
Што ў нас мала песенек:
У бабулькі у куфэрку
На сто год запасена. ZA — 40

Дзе б ні пець, калі б ні пець,
Будзе ўдосталь песенек:
Не прапеўшы і адной,
Новых сто прыдумаю. ZA — 168

Напаўголаса спяваю —
Людзі ўсе здзіўляюцца.
А тады што з імі будзе,
Як пушчу ўсім голасам? ZA — 631

Звонка, песня, разлівайся
Па-над лесам-дрэвамі,
Хай у вёсцы хлопцы чуюць
Песенніцу здатную. ZA — 835

Дрэвы, макаўкі схіліце,
Голас верхам хай ляціць,
Голас верхам хай ляціць,
Хай мой хлопец слухае. ZA — 831

Звонкім голасам сваім
Малайца паддражніваю;
Ну, а той заслухаўся,
Слёзы выціраючы. ZA — 684

Што ты песню пачынаеш,
Як усю не ведаеш?
Людзі скажуць, што не ўмееш
Дарабіць работаньку. ZA — 913

Навакол цвіце чаромха,
Пасяродку яблынька.
Навакол пяюць дачушкі,
Пасяродку маманька. КА — 278

Маці ўсё мяне ўшчувае,
Што я песенькі спяваю.
Не магу я з сэрцам зладзіць —
Сэрца ў шчасці так і млее.
Дык няўжо мне сэрца гэта
Захаваць на дно марское? Е — IV — 1889

Татка вінны, а не мамка,
Што хаджу спяваючы:
На калыску жэрдку высек,
Дзе салоўкі шчоўкалі. ZA — 402

Чуеш, як пяюць сялянкі —
Ні лісток не зваліцца.
А запелі лесічанкі —
Дрэвы захісталіся. Е — I — 29

Спой мне песню, лесічанка,
Песень многа ведаеш —
Наспяваў табе салоўка,
У кусточку седзячы. GP — 24

За ракой пяюць дзяўчаты —
Проста не наслухацца.
Я па голасу пазнаю,
Дзе мая каханая. Е — Y — 3522

Заспявай жа, сірацінка,
Песень многа ведаеш.
Без татулькі, без матулькі
Песняй суцяшаешся. GP — 23

За ракой пяюць дзяўчаты,
Ды ў тумане не відаць.
Шапку зняў, ды ну махаю,
Каб туман развеяўся. ГР — 529

Дай мне, божа, так памерці,
Як татулька, маманька:
Паміраў татулька з песняй,
Мамка з песняй памірала. КЛ — 4



*Татка хоча ратаёчка,*
*Мамачка — даільшчыцу.*



Татка з мамкай лаяліся,
Дровы ў лазню носячы:
Татка хоча ратаёчка,
Мамачка — даільшчыцу. КА — 1168

Кацянятка моліцца,
Хай дзяўчынка родзіцца:
Як карованьку падоіць,
Дасць даёнку вылізаць. GP — 1172

Пакажы мне, жоначка,
Ты каго захутала:
Ці пастушачку — дзяўчынку,
Ці сынка — аратага? RD — 22 с.

Ясна зорка засвяціла
Над маёю хатаю:
Бог мне гэтай ночкай даў
Хлопчыка — аратага. E — I — 2013

Татка з мамкай, радуйцеся —
Шчасце к вам з'явілася:
Ў лазні ў веніках знайшлося
Дзіцянё маленькае,
А ў стадоле — у аўсе —
Жарабятка гнедзенькае. E — I — 1985

Як я пасвіла пры лесе,
Дык знайшла там хлопчыка;
Узяла, пацалавала
І паклала ў кошычак. Е — I — 2003

У запечку, у кутку
Плакаў цвыркуночак;
Я ў прасцінку завінула —
Будзе ратаёчак. Е — I — 1997 b.

Хто вадзіцу замуціў
Ля млына ў ставочку?
Замуціў вадзіцу Янка,
Чэрпаючы сына. Е — I — 1993

Нeяк дзіўна ўсім здалося:
Скуль жа дзіцятка ўзялося?
З неба апусцілася
З ланцугом сярэбраным,
З ланцугом сярэбраным,
Зыбкай пасярэбранай. Е — I — 1991

Запытаўся я ў матулькі:
Як мне выбраць жэрдачку?
— Для дзяўчынкі — ліпавую,
Хлопчыку — дубовую. КА — 1676

Сонца вестачку прыслала —
Ну, радні прыбавілася;
Ды пакуль яшчэ не знаю:
Хлопчык ці дзяўчыначка. КА — 1288

*Дзверы, вокны адчыняйце*
*Ды прымайце хросніка!*

За куму мяне бярыце,
У мяне ўсё ладзіцца:
Мой канёчак не кульгае,
Мой язык не блытае. Е — I — 2073

Кумка кумку запрашала:
Пойдзем, кумка, піва піць,
Пойдзем, кумка, піва піць,
Хросніка выхвальваць. Е — I — 2572

Быць кумой заўсёды згодна,
Бо багата пачастуюць:
Напякуць там булак белых,
Піва хмельнага наварацць. Е — I — 2082

У кумы збіраюся,
Дзве сукні ўздзела:
Знізу зялёную,
Зверху блакітную. Е — I — 2087

Ў кумы збіраюся,
Еду я тройкай —
Хай жа мой хросьнічак
Ездзе шасцёркай. Е — I — 2137

Ў кумы збіраюся,
Ружу саджаю,
Хай мая хросніца
Ружай красуе. Е — I — 2106

Я радзілася ў матулькі
Без імя і без кашулькі.
Хросны хай імя купляе,
Шые хросная кашульку. Е — I — 2165

Паспяшайся, мой канёк,—
Вецер вее сцюжаю.
Пад ваўнянай хустаю
Спіць малая душачка. Е — I — 2155

Дзверы, вокны адчыняйце
Ды прымайце хросніка —
І з каровамі, валамі
І з гнядымі жарабкамі. Е — I — 2185

Прыцягнулася кума,
Павалілася:
Бочка піва на нагу
Накацілася. Е — I — 2577

Хто сапраўдны хросны бацька,
Хай калысачку пачэпіць,
А хто мамка хросная,
Хай засцеле посцілкай. КА — 1646

Пакладу я рукавічкі
У пасаг для хросніцы;
Хай навучыцца вязаць
Гэткія ж — з узорамі. RD — 47 с.

Грошы для хросніка
Я не падлічваю:
Колькі там возьмецца —
Жменяю кідаю. Е — I — 2570

Матка хросная казала,
Дасць кашулю доўгую;
Доўгі быў язык сказаць,
Даць — рука кароткая. Е — I — 2612

Не прыйшоў я на хрысціны,
Каб тут добра выспацца:
Я прыйшоў, каб есці, піці,
Паспяваці радасна. RD — 41 с.

Еш, еш, хросны,
Рот выціраючы,—
Каб жа твой хроснік
Рос не слінявы. Е — I — 2590

Ай ды хросніца! — малая,
А ўжо колькі розуму:
Разам з мамкай учыніла
Хрэсьбіны вясёлыя. КА — 1463

І чаму гэта ў стала
Ногі падагнуліся?
Падагнуліся ад хлеба,
Не ад срэбра-золата. КА — 1425

Пойдзем, кумкі, скакаць
Пасярод пакоіка:
Хай наш хросньчак хутчэй
Ножанькамі тупае. КА — 1405

Хутка, куманькі, паешце,
Хутка песні праспявайце:
Хутка хроснік сам хай ходзіць,
Гаварыць хай вучыцца. Е — I — 2217

Бацька з маткай — маладыя,
Маладых у кумы бралі;
Ні спяваць яны не ўмеюць,
Ані славіць хросніка. КА — 1579

Ну, панюхаем табакі,
Кумкі даражэнькія,—
Хай расце наш хроснічак
Ды табаку нюхае. Е — I — 2589

Не ляжы ты, хросніца,
Доўга пад прасціначкай —
Падымайся, абувайся,
Слухай татку, маманьку. Е — I — 3065

Ты скачы сама, матулька,
Услаўляй дзіцёначка,—
Бо такіх у кумы брала,
Што скакаць няўмелыя. RD — 40 с.

Чым аддзякую за тое,
Што калыску вешалі?
Рукавіцы дам, панчохі,
Аж да пят кашулечку. КА — 32265



*Сном забылася матулька*
*Над калыскай сынавай.*

Мамка вешае калыску,
З болем слёзы праліває.
Адчувае сэрца мамкі:
Доля ў сына — батракова. Е — I — 2518

Сном забылася матулька
Над калыскай сынавай —
Калыхала і люляла,
Лепшых дзён чакаючы. Е — Y — 967

З плачам маманька чапляла
Дачушцы калысачку;
А сынку чапляла з песняй,
Бо кармілец вырасце. GP — 1953

Калышы дачушку, мамка,
А сынка ў ваду закінь:
Ад дачушкі ўбачыш шчасце,
Ад сынка — дык слёзанькі. Е — Ү — 934

Так мяне любіла мамка,
Так старанна рупілася:
Як брыла балотам, граззю,
На руках мяне трымала. Е — I — 3008

Калышы мяне, матулька.
Покуль я ў калысачцы,
Як на коніка я сяду,
Будзе конік калыхаць. Е — I — 2976

Калышы мяне, матулька,
Покуль я маленечкі;
Потым мора пакалыша —
У дубовай лодачцы. Е — I — 2980 b.

Хто мядзведзю, хто ваўку
Ў лесе вешаў зыбачку?
А якія ж выраслі —
Без люляння, пешчання! GP — 1716

Ад чаго ў маёй матулькі
Рукі аслабелыя?
Бо дзяцей сваіх насіла,
Зараз носіць сынавых. КА — 3150

Дзіцяняці першаму
Я кашульку вышыла;
А другому, трэцяму —
Нават не падрублівала. GP — 1343

Есткі хлеба хочацца;
Не дае матуленька,
Не дае, пытаецца:
— Што рабіла, дзіцятка,
Ці ты жыта малаціла,
Ці круціла жоранкі? КА — 2893

Мне шкада сваёй матулькі,
Што адна над жорнамі.
Я паставіла прыступку,
Пасабіць стараюся. КА — 8010

Люлі-люлі, зыбачка,
Хай малойчык вырасце;
Будзе многа працаваць.
Нівы панскія араць. Е — V — 2

Спі, дзіцятка, трэба спаць;
Выйду кветачкі збіраць.
Кветкі хлопчыку збяру,
Імі зыбку прыбяру. Е — I — 2852

На парожку сон сядзіць
І цвеліць дзіцёначка.
Ты вазьмі дубец, матулька,
Сон гані ў калысачку. GP — 2069

Прынясі ты, мышка, сон
Дзіцятку маленькаму;
А як сон ты прынясеш,
Спі сама салодзенька. КА — 2116

Прынясі ты, мышка, сон
Праз шчылінкі ля вакон.
Ціха-ціханька ідзі,
Не схапіў бы кот, глядзі!

Сон ты моцненька трымай,
Дзіцянятку ў зыбку дай,
Дзіцянятку ў зыбку дай,
Хутка ў норачку ўцякай! Е — I — 2884

Едзе мышка, воз рыпіць,
У вазу тым сон ляжыць.
— Мышка, едзь у гэты двор,
Тут малых паўнюсенька. GP — 2075

Ай-я, жý-жу, мой мядзведзік,
Босенькія лапанькі;
Бацька з маткай не сплялі
Свайму сыну лапаткі. Е — I — 2913

Ай-я, жý-жу, мой мядзведзік,
Лапанькі шырокенькія.
Татка выйшаў пчол глядзець.
Маманька — па ягады.
Татка мёду збан прынёс,
Мамка — ягад кошычак. КА — 2105.2

Гуца-гуца, гуца-ца!
Мáю дзевяць жарабкоў:
Тры вязуць, тры нясуць,
А тры ззаду бягуць. Е — 3079

Я пяку, пяку хлябочкі
Меншанькія, большанькія;
Прыйдуць хутка ўсе браточкі
Меншыя і большыя. GP — 2211

— Сованька, сованька,
Дзеткі твае гожыя.
— А такія, як і мамка,
Бо сама я гожая!

— З буйнымі галовамі,
Вочы ў іх лупатыя!
— Урадзіліся ўсе ў бацьку —
Чорта валавокага. КА — 30618

Пяць ваўкоў ваўка валочаць
Па ільду па слізкаму;
Усе пяць знясілелі,
Аж хвасты адкінулі. Е — I — 3900.1

Кот, вялікі мышалоў,
Ў Рыгу ў сваты выехаў.
Ну, раскоша для мышэй,
Аж хвасты закручваюць. GP — 2256

Ходзьце, дзеці, паглядзіце,
Што ў запечку робіцца:
Цвыркуна блыха лупцуе,
За чубок трымаючы. GP — 2723



*Узрасла я ў мамачкі*
*З дзевяццю браточкамі.*



Ні адна не ўмее птушка,
Як зязюлька, кукаваць.
Так ніхто мяне не любіць,
Як мая матуленька. Е — I — 2848

Хоць палю лучыну, свечку —
У пакоі прыцемна;
А матулька толькі ўвойдзе,
І пакой засвеціцца. Е — I — 2847

Сонца цёплае, матулька,
Вы абое добранькія:
Добра сонца сагравае,
Добра з мамкай гутарыць. GP — 3235

Адпачні, прысядзь хоць крыху,
Маманька старэнькая,—
Намарылася ты ўдосталь
Нада мной маленечкай. Е — Y — 757

Навучай мяне, матулька
Каб усё я ўмела:
А калі ўсяму навучыш,
Навучы і розуму. GO — 6676

Навучай мяне, матулька,
Каб свякруха не вучыла.
Як вучыць свякруха будзе,
Ў свет няславу вынесе. Е — III — 997

Шчыра дзякую матульцы,
Што будзіла раненька,—
Мне не прыйдзецца ніколі
Між чужых саромецца. Е — III — 1195

Не ўслаўляй мяне, матулька,
Не хадзі хваліць па вёсках:
Самі рукі, ногі ўславяць,
Цноту, годнасць выкажуць. Е — III — 1327

Сонца йдзе да захаду,
Мамка йдзе да старасці;
Паспяшайцеся вы ў мамкі
Набірацца розуму. GP — 3253

І татульку і матульку
Я важу ў начовачках,
А таму, што не вучылі,
Як мне зладзіць саначкі. Е — Y — 1047

Вырас дуб над крушняю
З дзевяццю развілкамі.
Узрасла я ў мамачкі
З дзевяццю браточкамі. КА — 3399

У братоў жыву я добра,
Бо браты ўсе добрыя:
Тока панскага не знаю,
Ні стадолы панскае. Е — Y — 97

Мой браток старэйшанькі,
Будзеш ты мне таткаю:
Пакараеш, пашкадуеш
І навучыш розуму. КА — 30408

Гадавалася я ў брата,
Што ў палацы я жыла:
Толькі свечкі ўсё паліла,
А лучын не бачыла. E — II — 68

З родным братам мы ніколі
Доўга не спрачаліся:
Заспрачаемся мы ў сенцах,
У пакоі мірымся. E — Y — 205

Я была дзяўчатам люба,
Покуль брат самотнічаў;
А як брат мой ажаніўся,
Дык і адвярнуліся. E — Y — 3102

Ты чаму, брат, жонку выбраў,
Дзе сям'я вялікая?
Грамадою ў госці прыйдуць —
Дзе ж усе накормяцца? E — II — 3703

Я зусім не размаўляю
Са сваёю братаваю:
Носіць брат кашулечку
Чорную, нямытую. GP — 26646

Што, сястрыцы, вам спрачацца?
Што вы не падзеліце?
Хай браты спрачаюцца
За зямельку бацькаву. GP — 3783

Лепш убачыць, а не чуць,
Як нявесткі дзеляцца:
На адным канцы лучыны
Два агні запальваюць. E — Y — 1351

Толькі сосны, елкі ў лесе,
А дубы не выраслі.
У матулькі толькі дочкі,
А няма аратага. E — Y — 1059

Мала, мала тых дубочкаў,
Ля дарогі што растуць.
Мала, мала тых сыночкаў,
Што матульцы хлеб даюць. E — Y — 923

З малых дзетак — мала бедак,
З большых дзетак — болей бедак:
Малым дзеткам— хлеба дайце,
Большым дзеткам — срэбрайка. KA — 3366



*Выйдзі з гаю, пакажыся —*
*Ці сама прыгожая.*

Гожа, дзеванька, спяваеш
У гаі-бярэзніку;
Выйдзі з гаю, пакажыся —
Ці сама прыгожая. E — Y — 3528

Ай, ты ліпа, ліпанька,
Гожая ды стройная!
Хоць я ў мамкі пешчаная,
А такой не вырасла. ZA — 10818

Ты, матулька, вінавата,
Што высокай не расла:
Зранку рана пасылала
На расу сцюдзёную. GP — 5364

Татка вінны, не матулька,
Што высокай не расла:
У нізіне высек жэрдку,
Нізка слаў калысачку. KA — 1672

Я высокая ўдалася
Ў невялічкай маманькі:
Як іду я — лес схіляю,
Вершаліначкі згінаю. GP — 5319

Мой татулька вельмі смелы,
Я такая ж смелая:
Ці то пану, ці паўпанку
Адкажу — як высцебаю. GP — 6636

Гнуць мяне ўсе мэліся,
Як мятліцу, нізенька;
Не такою я ўдалася,
Каб мятліцай гнулася. GP — 6637

Завівала я вяночак,
Кветкі брала ўсякія;
А чаромху дык не брала —
Забаліць галованька. E — I — 231

Я хаджу наўкол бярозы
Ды лічу лісточкі:
Колькі лісцяў на бярозе,
Столькі і ў вяночку. E — III — 1835

Пяць братоў, адна сястрыца,
Як яе ўпрыгожваць?
— Двое купім персцень срэбны,
Трое — пояс з золата. E — III — 662

На мяне, браткі, не скнарцеся,
Мне не трэба многага:
Да зямлі спадніцу з шоўку,
Серабра — да пояса. E — III — 2480

Жывучы ў сваіх браточкаў,
Не хаджу я ціханька:
Бісер дзынкае, каралі,
Ды вяночак бліскае. Е—III — 2402

Ці таму, што я сіротка,
І хадзіць мне чорнаю?
Праплыву лябёдкай белай
Між дачушак мачашыных. Е—III — 3549

А чаму ж мне не насіць
Хусты свае белыя? —
Іх я вымыла слязамі
І на сонцы высушыла. Е — II — 561

Запыталася сястрычка:
— Колькі полак у спадніцы?
— Полак пяць ці шэсць у іншай,
А ў багатай дык і дзевяць. Е — III — 622

Нарадзілася я ўвесну,
Як цвілі пралесачкі.
Як я вырасла дзяўчынай,
Сталі зваць Пралескаю. Е — I — 2032 b



*Вочы дзел збаяліся,*
*Рукі не збаяліся.*

— А куды ты, а куды ты,
Пеўнічак мой,
Зранку рана, зранку рана
Раненька?
— Я на вёску, каб дзяўчыну
Абудзіць,

Зранку рана, зранку рана
На расе.
А прыбегшы, а прыбегшы
У дварок,
Тры разочкі, тры разочкі
Праспяваў:
— Абудзіся, абудзіся,
Дзеванька,—
Не чакай, што нехта прыйдзе
Падымаць. Е—III — 1153

Курачку аўсом карміла,
Пеўніка — дык высеўкамі,
Бо будзіў мяне зарана,
Каб круціла жоранкі. ZA — 4206

Вочы дзел збаяліся,
Рукі не збаяліся;
А чаго рукам баяцца:
Зналі — будзе зроблена. ZA — 1242

Дзве рукі ды дзве нагі,
Вось мае работнікі;
Як чатыры ўсе знямогуць,
Буду ўсім я лішняя. ZA — 1285

Загудзелі жорны гулка.
Хто іх змусіў загудзець?
Змусіла дзяўчынанька,
Малайца чакаючы. ZA — 4667

Падымайцеся, браточкі,—
Сонца ўжо ўглядаецца;
Я мех жыта ўжо змалола
Раніцаю раненька. ZA — 4471

Буду дробна я малоць,
Падкладаць па зернейку —
Хай мне мачаха не кажа,
Што забуйна змолата. ZA — 4484

Што стукоча, што грукоча
У дварэ ў малойчыка?
— На таку цапы стукочуць,
Жорны — у млыночку. E — II — 417

Хлеба белага буханку
Пад страху ў таку схавала;
Пра буханку як успомню,
Падымуся раненька. KA — 28746

Тры дачушкі пры матульцы,
Гожыя, старанныя:
Тчэ адна, другая вяжа,
Вышывае трэцяя. ZA — 9310 b

Тры вярбы растуць над рэчкай,
Звесіўшы галінкі.
Тры дачкі сядзяць пры мамцы,
Хусты вышываючы. ZA — 9389

Хоць старанна, многа прала,
А як мамка — так не ўмела:
Мамка прала тонка, гладка,
Ніткі доўгія пускала. ZA — 8698

Ясна, месяц, пасвяці мне
Срэбнымі праменямі —
Трэба лён мне тонка прасці,
А лучына цьмяная. ZA — 8415.2

Тонка прала, гладка шыла
Брацейку кашульку;
Хай браток разносіць славу
Аж за ўсе ваколіцы. ZA — 8671

Пой, круціся, вераценца,
Покуль будзеш поўнае;
Набяжыш як поўнае,
Пакладу ў куфэрачак. E — III — 32

У ягняткі беленькага
Шэранькія ножкі.
Хусты белыя я вытку,
Беражочкі — шэранькія. KA — 29064

Па лужку бяжыць кудзеля,
Праллю ўсё нагледжвае.
Да мяне бяжы, кудзеля,
Я спраду, спяваючы. ZA — 8572

Я дзяўчыначка малая,
А раблю вялікае:
І праду сама, і тку я,
І сукаю гладзенька. ZA — 8339

Да мяне, дзяўчаты, пойдзем
На вячорках пасядзець,
На вячорках пасядзець,
Песні звонка пасяваць. ZA — 8475

Мы збіраемся штовечар
На вячорках пасядзець;
Хто прадзе, а хто і вяжа,
А хто хусту вышывае. ZA — 8482

Я кашулю вышывала
Ўзорамі траякімі:
Сонейкамі, зорачкамі,
Жалудкамі жоўтымі. ZA — 9337

Божа, злітуйся над дзеўкай —
Дзеўка вельмі грэшная:
Людзі ўсе ў царкве цяпер,
А яна — за вышыўкамі. GP — 6840



*Добра трэба апрануцца,*
*Скласці ў куфар добрае.*

Што ж ты, братка, лён пасеяў
На пагорку глiністым?
У пасаг тваёй сястрыцы
Будуць толькі слёзанькі. E — II — 990

Сам скачы ты ў куфар, братка,
І з усімі ботамі!
Без пасагу засталася,
На цябе ўсё робячы. GP — 16598

Я адну пасу кароўку,
Вось таму і плачацца.
Што я ў людзі павяду,
Што пакіну маманьцы? ZA — 6957.1

Падабаюся,— бярыце,
Ды пасагу не прасіце:
Я братам рабіла, пану,
А пасаг не справіла. E — III—1495

Мы з матулькай хусты тчом
За аднымі кроснамі.

Буду замуж я выходзіць,
Хусты мы пачнём дзяліць,
Хусты мы пачнём дзяліць
І абедзве слёзы ліць. Е — III — 224

Тчы, матуленька, дзве хусты,
Мне адну, сабе другую;
Мы тваю — удзвюх паносім,
А мая ў пасаг хай будзе. ZA — 8972

Паспяшай, мая матулька,
Хусты тчы пасажныя;
Хлопец шчыра пабажыўся:
Больш чакаць не думае. ZA — 8978

Восень блізка, восень блізка,
Працы шмат сабралася:
Рукавіцы і шкарпэткі
Міламу не зроблены. ZA — 8356

Не гняці мяне, санлівасць,—
Маладой мне многа трэба:
Добра трэба апрануцца,
Скласці ў куфар добрае. ZA — 9720

Рана маманька будзіла,
Лён казала тонка прасці;
Абяцала замуж выдаць,
Выткаць хустку белую. ZA — 8379

Узнімайся, сонца, рана,
А хавайся позненька,
Каб магла пасаг я справіць —
Поўны куфар з коптурам. ZA — 9744

Конік мой бяжыць дарогай,
А куды — не ведае.
Дзеўка вяжа рукавіцы,
А каму — не ведае. ZA — 9490

Як вязала рукавіцы,
Жоўты гарус выбрала; —
У малойчыка майго
Валосанькі жоўтыя. GP — 7259

Я вязала рукавіцы,
Думала — для брацейкі;
Але лепш аддам я хлопцу,
Што прыедзе сватацца. ZA — 9501

Рукавіцы для каханка
Ў тры вязала нітачкі,
Каб не мерзлі ў яго рукі,
Коніка сядлаючы. ZA — 9529

Рукавіцы і шкарпэткі
Я вязала міламу,
Рук і ног каб не змарозіў
Да мяне прыходзячы. E — III — 808

Ратаю́ кашулю шыла
І па дубу мерала;
Хай дужэе, прыгажэе,
Як і дуб зялёненькі. ZA — 9248

Як мага спяшаюся
Спрасці ўсю кудзелечку:
Дзеўкі ўсе павыйдуць замуж,—
Што ж са мною станецца? ZA — 8633

Сядзь, сястра, у крэсельца,
Дзе сядзела маманька;
Так рабі сабе пасаг,
Як рабіла маманька. ZA — 9733

Мне дзяўчына адмаўляе,—
Ручнікі не вытканы.
Да мяне ідзі, дам лёну —
За вясну і ўправішся. GP — 14726

Хлопец сам дапамагаў мне,
Каб пасаг я справіла:
Лён прыносіў мне і воўну,
Ад бацькоў употайкі. E — III — 1589

Ты, матулька, і не знаеш,
Што нам з хлопцам ведама:
Рукавіцы для каханка
Ў куфар мой пакладзены. E — Y — 3247

Туфлікі ўсё скрыпу-скрыпу!
Спражачкі пабразгваюць.
Не браток мне іх купіў,
Іх купіў каханачак. E — IY — 2078

Аб маім пасажным куфры
Аж тры мамкі рупіліся:
Мамка таткі, мамка мамкі,
Мамка мая родненькая. ZA — 9662

Распісаны куфар мой
Ружамі і макамі.
А як века адчынілі —
Хустамі расквеціўся. GP — 16637

Я штодзень была на пашы
І штоноч была ў начлезе.
Татка даў каня за гэта,
Маманька — каровáньку. КА — 29560

— Татка сыну долю выдаў;
Дзе ж мая, матулька, доля?
— А твая, дачушка, доля
У пасаг укладзена. КА — 3762

Склала ў куфар, не насіла
Хусты, мамкай вытканыя.
Як пасаг свой праглядаю,—
Маманька і ўспомніцца. Е — III — 1424

Пахваляйся, мамка, шчасцем —
Дочкі ўсе прыгожыя.
Без вялікага пасагу
Рана ў людзі выдадзены. Е — III — 1718

Пра пасаг я не бядую,
Бо на ножках туфлікі;
Як сваты пасаг спытаюць,
Туфлямі патупаю. Е — IY — 2105

Ай, татулька, ай, татулька,
Ты памёр не ў пораньку:
Куфар мой не абкаваны,
Замуж я не выдадзена. Е — III — 3236



*У царкву хадзіла часта,*
*Хлопцы каб угледзелі.*

І ячмень паспеў і жыта —
Хутка трэба будзе жаць.
Расцвіла краса-дзяўчына —
Трэба замуж выдаваць. Е — YI — 1813

Восень, восень надыходзіць —
Дні дзяўчатам страшныя:
Ледзь сабачы брэх пачуюць —
У каноплі кідаюцца. E — YI — 1731

— Ой, матулька міленькая,
Нешта мне ўсё ікаецца.
— Маладая ты, дачушка,—
Хлопцы вось і згадваюць. E — YI — 2854

Абвіла свой стан я пасам,
Тры разы абмотвала.
Аж у тры рады гарцуюць
Хлопцы па падворку. E — III — 664

Людзі ціхай называюць,
Бо я мала гутару.
Я ж падлогу праламіла,
З хлопцамі танцуючы. E — YII — 1086

Прасніца, кудзелечка —
Ах ты, чорт, ах ты, чорт!
Як малойчыка я ўгледжу —
Ах ты, бог, ах ты, бог! E — III — 1083

Як пасла я, вось і бачу:
Птах ляціць за птушкаю.
І дурныя ж нашы хлопцы,
Што за мной не гоняцца. GP — 9850

У дзяўчат за пазухай
Белыя буханачкі;
Не на ежу, не на продаж,—
Малайцоў пацвельваць. GP — 5556

Шый, браток, мне туфлікі
З гузікамі срэбнымі,
Каб магла малойчыка
Ножкаю падражніваць. ZA — 9585

Тчы, матулька, шый, матулька,
Мне спадніцу пышную,
Каб магла свайго я хлопца
Падалом пахвостваць. E — III — 624

Я часала воўну, прала,
Цяжкай працы не рабіла;
Рукі мяккія хай будуць,
З хлопцам каб здароўкацца. E — III — 13

Пасварыліся дзяўчаты,
Рукавіцы вяжучы:
Хочуць замуж выскачыць —
За майго ўсе брацейку. KA — 12277

Во ляцела, бегла дзеўка,
Брата майго ловячы,—
Нат авечку не дастрыгла,
Зноў у поле выпусціла. E — Y — 3033

Ты спявай, спявай, дзяўчына,
Хутка змоўкне галасок:
Як прыедзе нарачоны,
Хутка зніме твой вянок. E — YI — 2258

Зіхаці, блішчы багата,
Мой вяночак бісерны;
Зіхацець табе нядоўга,
Толькі гэта лецейка. E — III — 1956

Не пайду на тое лета
Я на ўзгорачак спяваць;
Палыном і крапівою
Будзе ўзгорак зарастаць. E — YI — 2007

Толькі лета засталося
Жыць у гэтай хатачцы,
Жыць у гэтай хатачцы,
У вяночку седзячы. E — III — 2301

Ешце, братавы кароўкі,
Вас нядоўга пасвіць буду:
Папасу вось толькі лета,
Выйду замуж восенню. ZA — 8120

Выйду, выйду, мамка, замуж,
Не счакаўшы восені;
Я б да восені чакала,
Хлопец не згаджаецца. GP — 14019

Час, матулька, мне ад'ехаць
Да чужое матанькі:
Пад маім пасажным куфрам
Аж падлога ўгнулася. E — III — 1672

Праз сініцу вестку слала
Да каханка-ратая:
Хай хутчэй у сваты едзе,
Не чакае ані дня. VA — 39 с.

Ці не дурні нашы хлопцы,
Што мяне не бачылі?
На пагорку я стаяла,
Рукавіцы вяжучы. E — YIII — 3449

У царкву хадзіла часта,
Хлопцы каб угледзелі.
Паглядаць дык паглядалі,
Сватацца не думалі. Е — VIII — 3494

Божа ж мой, рабіць што буду? —
Хлопцы і не сватаюцца,
Хлопцы і не сватаюцца —
Клічуць векавухаю. Е — VIII — 3526

Дакарае, лае маці,
Што я хлопцаў не любіла.
Я любіла хлопцаў, мамка,
Хлопцы не ўлюбляліся. Е — VIII — 3621

Хлопцы замуж не бяруць,
Кажуць — я ссівелая;
Запылілася галоўка,
Мліва як прасейвала. ZA — 4739

— Хлопцы, хлопцы, восень блізка —
Вы чаму не жэніцеся?
Дайце волю мне самой
Выбраць мужанёчка:
Не дзянёчак з ім пражыць,
А жыццё ўсё доўгае. Е — VI — 1911

Я на горачцы стаяла,
Кінула пярсцёначак;
Хто падыме мой пярсцёнак,
Той і будзе суджаны. КА — 6281

Узнялася я на горку,
Свой вянок пакручваю:
Дзе ярчэй блішчыць вяночак,
Там і жыць назначана. Е — III — 2013

Як я пасвіла, глядзела,
Дзе б мне жыць хацелася:
Там, дзе чорная зямелька,—
Белы хлебец родзіцца. Е — IY — 2411

Я далёка згледзеў ніву:
Ніва ходзіць хвалямі;
Ну, ячмень не вырас летась,
А цяпер — што скажаце?
— А цяпер адно мы скажам:
Хмель не цвіў ніколечкі. КА — 13781

Што чакаў, марудзіў, хлопец,
Што не браў ты жоначку?
Ці чакаў, пакуль узыдзе
Месяц на патыліцы? Е — YIII — 3437



*Дайце волю мне самой*
*Выбраць мужанёчка.*

Ціха мы паразмаўлялі
Са сваёй матуленькай:
Ці самой мне выйсці ў людзі,
Ці прымак мо знойдзецца? Е — YII — 2977

Дзе радзілася я — знаю,
Знаю — дзе і вырасла;
А таго не знаю месца,
Дзе пражыць мне прыйдзецца
Е — IY — 2400

Шый, матуля, дзве кашулі,
Рускую, літоўскую;
За каго, не знаю, выйду:
За літоўца, рускага? Е — YI — 410

У мяне адна сястрыца —
За каго ж яе аддаць?
Ці аддаць за ратая,
Ці за срэбра каваля?
Лепш аддам за ратая,
Чым за срэбра каваля:
Серабро каваль куе —
Ратаёвы хлеб жуе. Е — Ү — 2621

Для мяне ты не старайся,
Боты не нацягвай;
Спадабаю, дык пайду я,
Хоць бы ты і ў лапатках. GP — 10370

Дай усім што хочаш, божа,—
Мне дай мужа з ботамі:
Як даёнак мне не хопіць,
Буду ў бот дадойваць. Е — IX — 4703

За таго не выйду замуж,
Хто лупцуе коніка;
Той, хто коніка лупцуе,
Будзе біць і жоначку. Е — IҮ — 1631

Уратуй мяне, мой божа,
Ад напасцяў жудасных:
Ад ваўка, і ад мядзведзя,
І ад мужа-п'яніцы. GP — 10602

З крыкам гусі адлятаюць
З возера бузянага.
З плачам дзеванькі ўцякаюць
Ад нахабы-п'яніцы. GP — 12350

Выдай, мамка, за любога,
За краўца не выдавай:
Мне жакетачку пашые
Са шматкоў накрадзеных. GP — 9541

Выдай, мамка, за любога,
Толькі не за рыбака:
У руках у Маці Мора *
Ўсё жыццё ягонае. GP — 9549

Не пайду я за старога,
Не хачу пакутаваць:
Выйдзі з ім — дык будзе сорам,
Кінь у хаце — болесна. E — IX — 4665

Над вянком маім залётаў
Шэракрылы ястрабок.
Хоць ты лётай, хоць не лётай,
Не аддам я свой вянок. E — YI — 11.12

Не пайду ні за каго я,
Не прыждаўшы суджанага;
Як прыждуся суджанага,
З ім пайду спяваючы. E — YI — 2496

Не пайду далёка замуж
Ад сваёй матуленькі,
Каб магла яе пабачыць,
Пасучы на ўзмежку. E — YII — 25b

Хоць была б там з лапак буда,
Хоць была б з галля халупа,
Я пайшла б туды, жыла там,
Толькі б ён быў сэрцу любы. GP — 10006

---

* Маці Мора (Юрас мáтэ) — увасабленне мора ў народнай міфалогіі.

У мяне ўглядайся, хлопец,
Покуль я не вырасла;
Падрасту, паразумнею —
Цяжка будзе высватаць. E — YI — 308

Добра знаю, добра бачу,
Хто па мне маркоціцца:
На мяне як вочы ўскіне —
І зачырванееецца. KA — 10546

Памажы мне, маладзец,
Памажы каровак пасвіць;
Памагу табе і я
Конікаў падкормліваць. ZA — 8117

Я ўжо ведала, я знала,
Хто мой будзе суджаны;
Я каня яму карміла,
Прыбірала шапачку,
Меч яму падпеpазала —
Бараніць зямельку. E — Y — 2401

Не пайду ні за каго я,
Толькі як за пчаляра;
А як буду пчалярыхай,
Будзе срэбра меркамі. ZA — 12251

Пасадзіла ружы — звялі,
Мак пасеяла — не цвіў.
Так і лецейка мінула,
З хлопцамі не ладзячы. GP — 6489

Я сыночку бацькаву
Нарабіла скруханькі:
За яго пайду — сказала,—
З іншым заручылася. E — IY — 833

Дзе твой гонар, хлопец, быў,
Да другой як сватаўся?
Сам жа ў куфар мой паклаў
Шапачку куніцавую. Е — YI — 3958



*Хоць і бацькаў ты сынок,*
*Галава не бацькава.*

Хлопец хваліцца заўзята,
Што ён майстар на ўсе рукі;
А не ўмее і карыта
Ён падсвінку выдзеўбці. Е — IX — 4669

Моцна хлопцы мяне любяць,
Ды і я іх палюблю:
Запрагу я двух у сошку,
Двух другіх у барану. Е — IY — 3771

Суцяшайцеся, дзяўчаты,—
Хлопцы сталі танныя:
За пяць грошаў ці за шэсць —
Выбірай найлепшага. Е — IY — 3675

Ці карысць якая з хлопцаў,
Што жывуць пад сонейкам? —
Тапчаны зімой пралежаць,
Летам траўку вылежаць. Е — IY — 3682

Будзеш ты ў чужых батрачыць,
Жыць не з нівы бацькавай:
Як закрыў ты ўчора стайню,
Так стаіць і сённека. Е — Y — 893

Бацькаў сын усё хваліўся
Ботамі бліскучымі.
— Кінь, гультаіна, хваліцца.
Ногі ў ботах — босыя. E — III — 546.1

Бацькаў сын, брухач таўшчэзны,
Ногі — каратышачкі;
Прыстаўляць драбіны мусіць,
Каб сесці на коніка. E — IY — 3691

Хлопцы ўсе сабе пашылі
Каптаны куртатыя:
Цераз плот зручней скакаць,
Бегаць за дзяўчатамі. E — IY — 3781

Фанабэрны хлопец ходзіць,
Ходзіць — задам круцячы.
— Ты глядзі, глядзі, фарсун,
Каб свой зад не выкруціў. E — IY — 3698

Мне каптан пасуе бацькаў
І кажух — па постаці.
Сеў я ў крэсла бацькава —
Дзе ты, розум бацькаў. GP — 3097

Хоць і бацькаў ты сынок,
Галава не бацькава:
Грошы бацькавы патраціў,
Прагуляў і коніка. KA — 3142

Толькі ўбачыла, пазнала,
То п'янчуга ведамы:
Ногі ледзьве-ледзьве цягне
Ды з-пад шапкі зыркае. E — IY — 1189

Цяжка конік уздыхае,
Хлопцу-жлукту служачы;
Цэлы тыдзень пры карчме
Цуглямі пабразгвае. КА — 29749

Матка сына выхваляла.
Хто ж яго не ведае? —
Усе корчмы перапіў,
Да ўсіх дзевак сватаўся. GP — 15611

Што ты, хлопец, утаропіў
Вочы пасавелыя?
Ці ты ў цёмным лесе вырас,
Ці дзяўчат не бачыўшы? E — YI — 2134

Двойчы ў год у хлопца гора,
Так і ходзіць у бядзе:
Як ячмень пасее — ссохне,
Дзеўку сватае — не йдзе. E — IY — 3748



*Кожны птах, чарвяк усякі,*
*Кожны мае жоначку.*

Не ў царкве, браточак мой,
Наглядай нявестачку;
Наглядай, як лён ірве,
Жыта жне на постаці. GP — 12120b

Выбіраючы нявесту,
Не на танцах прыглядай;
Тая, танцуе што лёгка,
Цяжка круціць жоранкі. GP — 12263

Кожны птах, чарвяк усякі —
Кожны мае жоначку.
Толькі я, здаровы хлопец,
Сам адзін — без жоначкі. E — YI — 1876

Тры гады карміў у стайні
Гнедага жарэбчыка;
На чацвёрты год паехаў
Выбіраць нявестухну. E — Y — 1448

Той дамок пазнаць не цяжка,
Дзе дзяўчаты дбайныя:
Каля дома ўсе плятні
Ўвешаны палотнамі. ZA — 9154

Ружы у садку цвітуць —
Кветачкі чырвоныя;
У пакоіку дзяўчаты —
Тварыкі ружовыя. E — III — 2327

Кожны дзень на ранку слухаў,
Дзе пяюць малольшчыцы.
Там, дзе раненька пяюць,
Выберу я жоначку. ZA — 4683

Тут я быў і зноў прыходжу,
У пакоік светленькі;
Калаўроцікі тут шэпчуць
І спяваюць дзеванькі. E — III — 1041

Пабліжэй падсеў малойчык
Да красуні-праллечкі;
Адпіхнуў кудзелю прэч,
Прыгарнуў дзяўчыначку. GP — 7119

Ой, чаму, чаму, дзяўчына,
Вырасла прыгожая,
Не працуецца, не спіцца,
Пра цябе ўсё думаецца. KA — 11018

Дзе была ты, прыгажуня,
Што з табой не бачыўся?
Ці ты ў матухны расла,
Цы ў пасагу мамчыным? GP — 5435.1

Ты скажы, скажы дзяўчына,
Дзе пасеш кароўкі?
Туды конікаў сваіх я
Выведу папасвіцца. ZA — 8113

Ты цвіці, цвіці, лянок,—
Краскі васільковыя;
Лён ірваць вазьму дзяўчыну —
Валасы шаўковыя. GP — 28380

Мамка хлопцава наўмысна
Лён ірваць згаворвала:
Хоча знаць, ці спрытна рву,
Ці збіраю чысценька. RD — 92 с.

Аж здалёку я пазнаю,
Дзе мая нявестачка:
Серабром усланы грудзі,
Пальцы ўсе ў пярсцёнках. E — III — 2432

Поўны гай бярозак белых;
Хата поўная дзяўчат.
Між дзяўчат адна сіротка —
Будзе мне за жонку. E — YI — 541

Збедаваўся мой браточак —
Не жаніцца гэтым годам:
Гэты год ячмень не вырас,
Хмель не цвіў ніколечкі. E — Y — 3109

Папрасіў мяне мой брацік:
— Прыглядзі ты мне дзяўчыну;
Тая, што ты ўпадабаеш,
Будзе мне нявестаю. E — Y — 2868

Знаю гожую дзяўчыну,
Ды ніхто не зведае;
Толькі брату і сказала,
Хай сядлае коніка. E — Y — 2882



*Праязджай, мой конік, міма —*
*Заязджаць у двор не будзем.*

Я скакаць, спяваць умею,
Рукадзельнічаць не ўмею.
Сорам гэтаму навучыць,
Як у людзі выдадуць. ZA — 8333

Хусты доўгія я ткала,
Быць хацела статнаю.
Хусты цягнуцца па смецці,
Следам слёзы сыплюцца. E — III — 371

Я вязала, вышывала,
Хлопцы каб пабачылі;
А як хлопцы не глядзелі,
Зноў усё распорвала. GP — 7156

Дзеўкі іншыя ўсе пралі,
Я ж на печы грэлася;
Іншых дзевак едуць сватаць,
Я кручуся спераду. ZA — 8735

Ах ты, сон ты мой вялікі,—
Як цябе мне вылежаць?
Сплю і ўдзень я, сплю і ўночы,
Сплю і стойма стаячы. KA — 6693

Я дзяўчына, нібы кветка,
Мой вяночак — ружавы;
Ды адна ў мяне загана,
Што спадніца з дзіркамі. E — IY — 3956

Я дзяўчынка, што малінка,
На абцасіках кручуся;
А як сяду я за кросны —
Аніяк не ладзіцца. E — III — 247b

Пачала я ткаць тканіну
Даўжынёю з Да́ўгаву;
Не ідзе ні ўзад ні ўперад
Без парады мамчынай. E — III — 227

Як не сорамна, дзяўчына,—
Валасы кудлатыя.
Курапатка дык і тая
З хахалком прыгладжаным. GP — 2982

Што ж, дзяўчына, ты пашыла
Прасціну кароткую?
К галаве яе пасцелеш —
У нагах нямашака. E — III — 265

А чыя ж такая дзеўка —
Андарак кароценькі?
Ці ў яе лянок не вырас,
Калаўрот не круціцца? E — III — 638

Гэтым дзеванькам не трэба
Ручнікі ткаць тонкія:
Павукі за іх наткалі
Аж па ўсіх закутачках. GP — 12937

Маці дзеўку аддавала
І свінню ў дадатак.
— Дзякуй, добрая свіння,
А дачка няўдалая. GP — 23582

Выхваляюцца дзяўчаты:
Столь прыбралі кветкамі;
Чым тут кветкі дапамогуць —
Сажа не абмецена. E — Y — 2959

Шэсць дачушак у матулькі,
А адзіны калаўрот,
Дый той кінуты ў запечак,
Не чапаны колькі год. E — II — 249

Добра жыць ля самай рэчкі
Дзеўкам, што лянівыя:
Покуль самі спачываюць,
Плынь кашулі вымые. ZA — 9122

Праязджай, мой конік, міма,
Заязджаць у двор не будзем:
Дзеўкі тут адкіды, смецце
Праз акно выкідваюць. GP — 14000

Павяртай назад канёчка,
Едзь дахаты, брацейка!
Я пачула ўжо здалёку —
Дзеўка з мамкай сварацца. КА — 13970

Ганарлівая дзяўчына —
Ні спяе, ні слова скажа;
З ганарлівасцю сваёю —
У вянку састарыцца. GP — 829

Багатыр сваю дачушку
Срэбрам прыхарошвае;
Срэбра ззяе, а сама
Шэлега не вартая. E — III — 2414

Чарнавокая дзяўчына
Гладзіць коніка майго;
Ці ты гладзіш, ці не гладзіш,
А не сядзеш на яго. E — Y — 1522

Той не быць маёй нявесткай,
Спераду што круціцца;
Мне нявестай тая будзе,
Што ўцячы стараецца. GP — 11341

Не вазьму я той дзяўчыны —
Хай у дзеўках старыцца:
Як палоць капусту сядзе,
Толькі спіць між градамі. ZA — 3190

Не вазьму я той дзяўчыны,
Што спявае, зубы сцяўшы:
Будзе мамку лаяць-бэсціць
Да вушэй разявіўшыся. E — IY — 551

Вы мяне бярыце ў жонкі,
Я мастачка слаўная:
Мне за год звязаць панчоху,
Што маланкай высмаліць!  E — III — 1089

Што з таго, што тонкі стан,
Пара ясных вочак —
Раз не ўмела я насіць
Свой вянок дзявочы.  E — YI — 1288

Па-над Даўгавай-ракой
Высіцца дубочак;
Як праходзіла я міма,
Ён сарваў вяночак.  E — YI — 98

Маці бэсціць, лаем лае:
— Дзе ты, дзеўка, швэндалася?
— Я без полудня тры дні
З хлопцамі пагульвала.  E — YI — 3558

Як я пасвіла каровак,
Нарабіла шкодкі:
Батракоў ячмень скарміла,
Хлопцу локаць наляжала.  ZA — 7761b

Добра ведаю я, хлопец,
На мяне ты квапішся.
А калі не квапішся,
Што ж ты мне падміргваеш?  GP — 20150

Хлопцы гонар свой хаваюць
Пад шырокай шапкаю;
Дзе, дзяўчаты, мы схаваем? —
Наш вяночак вузенькі.  E — YI — 1326

*Ястрабок разлётаўся,*
*За курамі сочачы.*

Гэты жонку выхваляе,
Конікам той хваліцца.
Чым, матулька, мне хваліцца —
Ні каня, ні жоначкі. GP — 30051

Пойдзем, хлопцы, паглядзець,
Ці бярозанькі пажоўклі;
Як бярозанькі пажоўклі,
Час збірацца сватацца. GP — 13768

Асядлай каня мне, татка,
Прыбяры, матуля, шапку,
Каб я панам мог паехаць
Прыглядаць нявестачку. GP — 13909

У мяне прыгожы конік,
На ім гунька ў зорачках;
Я на ім паеду ў вёску
Выбіраць нявестачку. ZA — 5040.1

Я цябе ні ў чым не скрыўджу,
Конік ты мой гнедзенькі:
Санкі выберу малыя
І нявесту зграбную. ZA — 5367.3

Ой, ты конік, ты мой конік,
Нарабіў мне сораму:
Ты знянацку паслізнуўся,
Шапка мая скінулася,
Шапка мая скінулася,
Ды перад дзяўчатамі.
Як сумленная дзяўчына,
Дык падасць у ручанькі,
А якая задавака,
Не шпурне і ножкаю. KA — 29799.9

Хлопец я гадоў сярэдніх,
З кавалераў і не выйшаў:
Сарамлівая матулька —
Сватаць не адважыцца. КА — 11157

Замыкай млынок, матулька,
На замочак срэбраны:
Хлопцы ўчора меркавалі
Выкрасці малольшчыцу. КА — 13539

Расстаўляйце, браты, варту
Ды па ўсіх дарожаньках:
Ноччу выкрасці сястрыцу
Малайцы надумалі. Е — YII — 719

Ястрабок разлётаўся,
За курамі сочачы.
Куры нашы не дурныя —
У каноплі ўскочылі. ZA — 7206

Я тры ночкі начавала
На далёкім востраве:
Ад матуленькі ўцякала —
Замуж выдаць мелася. КА — 13562

Дзеўку ўпотай не крадзіце,
Не вязіце сілаю:
Дзеўка, гвалтам вывезеная,
Не жыве да старасці. КА — 13504

Правядзі мяне, дзяўчына,
Да таго пагорачка;
Там чакаюць мяне коні,
Распісныя саначкі. Е — YII — 1095

Хто дарогу распісаў
Частымі слядочкамі?
То сватоў жарэбчыкі
Срэбнымі падковамі. КА — 14175

Што залёталі так рана
Ястрабочкі шэрыя?
Пліска жоўтая яшчэ
Не прыбрала крылцаў. Е — YI — 55

Я сабаку не шкадую
Хлеба лусту цэлую:
Хай сабака бога моліць,
Каб мяне пасваталі. Е — II — 3601

Падмятай, матулька, хату,
Смецце пхай, гані ў куты:
За ракой сабакі брэшуць —
Едуць з горада сваты. Е — YI — 2140

Гул ідзе, сваты ўжо едуць,
А мой двор нямецены,
А мой двор нямецены,
Лыжкі непамытыя.
Ты падзьмі, напніся, вецер,
Вымятай з двара ўсё смецце;
Ліся, дожджык, ліся, дожджык,
Лыжкі вымый чысценька. GP — 14371

Рана меўся сват прыехаць,
Меўся ўбачыць босую.
Не дурніца я — і ногі
Абуваю звечара. GP — 14079

*Не аддай дачку, матулька,*
*Першы раз як сватаецца.*

Што ты, татка, піва ставіш?
Што пірог пячэш, матулька?
Мо чакаеце вы госця —
Што вы мне не кажаце? Е — YI — 3153

Ну, заходзьце ў хату, госці,
Пачастуем тым, што маем!
Бацька крэслы падстаўляе,
Маці столік накрывае. Е — YII — 1056

Добры вечар, гаспадыня!
А ці цёпла ў вашай хаце?
А як цёпла ў вашай хаце,
Будзем міла размаўляці. Е — II — 81

Перад панам не здымаю
Шапачкі куніцавай;
Перад матанькай дзяўчыны
Камячу я ў прыгаршчах. КА — 14634

Малады быў і не ведаў,
Як прасіць дачушку ў маткі:
Ці руку падаць спачатку,
Ці віно салодкае? Е — Y — 2244

Дзе там хлопцам добра ведаць,
Як прасіць дачушку ў маткі:
— Шапку трэба ўзяць пад паху,
Піва збан — у ручанькі. Е — Y — 2250

Не здавайся лёгка, маці,
Помні, цяжка гадаваць:
Не аддай сваю дачушку
За кругляшку медную. GP — 13684

Не аддай дачку, матулька,
Першы раз як сватаецца:
Тры разы няхай сядлае
Варанога коніка. Е — IY — 893

Першы раз прыедуць сватаць,
Адмаўляйце, брацейкі;
А другі ці трэці раз —
Можна і пагутарыць. Е — Y — 2455

Хлопец слёзна просіць-моліць,
Шчокі бацькавы ён гладзіць,
Шчокі бацькавы ён гладзіць,
Рукі матчыны цалуе.
— Не давай дачку, матуля,
Не забудзь, як гадавала,
Не забудзь, як гадавала,
Як дачка пасаг спраўляла,
Рукавіцы як вязала,
Хусткі ўзорыстыя ткала. Е — Y — 2416

Можаш, хлопец, сватацца,
Можаш і не сватацца:
Толькі сакта на грудзях —
Вось і ўсё багаццейка. КА — 9931

Я адна дачушка ў мамкі,
Свавольная вырасла;
Той, хто сватацца надумаў,
Хай звівае плётачку. КА — 3309

За мяне ідзі, дзяўчына,
Хоць бы ты і босая;
Як пасобіць бог разжыцца,
Дык абую ў туфлікі. Е — IY — 2162

Я датуль згінаў дубочак,
Аж пакуль сагнуў дугу.
Я датуль прасіў матульку,
Аж пакуль дачку дала. КА — 14828

Эх, сусед-суседзіна,
Ну, пра што спрачаемся?
І дачка твая і сын мой
І без нас цалуюцца. GP — 11597

Хлопец ты і хлопец я,
У абодвух сёстранькі.
Дай сясцёр сваіх змяняем —
Будуць у нас жоначкі. Е — YII — 3057

Мой старэйшы брат — кульгавы,
Жонка ж яго — кралечка.
На, зламай нагу мне, братка,
А аддай мне жоначку! Е — YIII — 2183

Я, матулька, бачу, бачу,—
Вы мяне прасваталі:
Рукавіцы, што звязала,
Хлопцу ўжо аддадзены. Е — YII — 3082

Ты дарма, дарма, малойчык,
На мяне ўглядаешся:
Я дала руку другому,
Выйсці абяцалася. GP — 15243

Дзе ты, хлопец, быў учора,
Дзе ты быў заўчорака?
Я ўжо сённека нявеста,
Бо з другім згаворана. GP — 15156

Той жа самы жанішок,
Што і летась сватаўся;
Тая ж каша, што і летась,
На насу трымаецца. GP — 15656

На каго сабакі брэшуць,
Па падворку бегаючы?
— Мамка хлопцава зноў прэцца
З пірагамі цёплымі. E — Y — 2716

Ну і дзіва, ну і смех
З гэтых нашых дзевачак:
Як пасватаю — не йдуць,
Не бяру — дык плачуцца. GP — 11072.3

Хмель — пранырлівы мужык,
Угару забраўся — сочыць:
Ці расце ячмень на полі,
Ці чакаюць вяселлейка? E — II — 1668



*Ну, бывайце, брацейкі,*
*Беражыце мамачку!*

Ой, арэхаў, ой, і ягад
У лясочку братавым!
Я хадзіла і збірала —
К хлопцу ў двор натрапіла. KA — 30656

Як пайшла сястрыца ў лес —
Ні самой, ні ягадак:
Ці ў балоце дзе загразла,
Ці к чужынцам трапіла. GP — 13466

Першы раз за вёску выйшла
Паспяваці песенькі;
Як пайшла, дык там застаўся
Срэбны мой пярсцёначак.

Як другі раз выйшла з дому,
Там вянок пакінула.
А як трэці раз я выйшла,
Дык і не вярнулася. КА — 509

І не ўгледзела — малола —
Чужакі наехалі;
Бы лісточак задрыжала,
Як у санкі ўкінулі. GP — 13565

Ястрабочкі шэранькія
Лёталі ды лёталі;
Нашу сёстраньку ўхапілі
З ільнянога полечка. GP — 13381

І не думала, не сніла
Сёння ладзіць змовіны.
І якім прынесла ветрам
Гожага малойчыка? GP — 15303

Заручыліся мы з хлопцам,
Зменены пярсцёначкі;
І ні пан нас не разлучыць,
Ні браточкі родныя. GP — 15375

Не купляла я за грошы
Малайца-аратага:
Шчокі-ружы паланілі,
Станік мой прыгожанькі. Е — IY — 48

Мне ісці па той дарозе,
Па якой не ходжана;
Хлопца мне таго любіць,
Што раней не бачыла. GP — 17781

Ай, браток мой родненькі,
Ці ж цябе я не любіла? —
Сам мяне аддаў ты ў людзі,
Сам садзіў у саначкі. E — YII — 1731

Пасадзіла я дубочак
Ля варотаў братавых —
Хай мяне браточак помніць,
Як у людзі выеду. RD — 115 c.

Ну, бывайце, брацейкі,
Беражыце мамачку!
Бо мяне вязуць у людзі
Да другой матуленькі. E — YII — 1388

Сцеражыся ты, браток,
Сцеражыся, братавая,
Як убачу я на мамцы
Чорную кашулечку! E — YII — 1390

Так ніхто мяне не скрыўдзіў,
Як браточак родненькі:
Гвалтам, сілаю прымусіў
Даць руку нягодніку. E — Y — 2654

Надышоў мой цяжкі дзень,—
Што рабіць — не ведаю!
Аддаюць мяне, дзяўчыну,
За старога дзядзечку.
Падышла пацалавацца,
Ён зубамі ляскае. E — YIII — 2402

Ты не плач, дзяўчыначка,
Са старым заручаная:
Будзеш спаць на барадзе
Так, як на падушачцы. GP — 17562

Я галіначку ламала,
З хлопцам размаўляючы;
Так і сэрца я ламаю,
Мамку пакідаючы. GP — 17336

Дзякуй, дзякуй, маманька,—
Добранька праводзіла;
Гожа як мяне прыбрала
Ружанькамі белымі. E — YII — 1226



*Аддала мяне матулька,*
*Абяцалася не плакаць.*

Не заплачу, не заплачу,
З донькай разлучаючыся.
Я пасля, пазней паплачу,
Каб дачка не бачыла. RD — 122 с.

Чым табе аддзячу, мамка,
За любоў, за пешчанне?
Дай свае мне, мамка, рукі,
Хай мае ліюцца слёзы,
Хай мае ліюцца слёзы
На твае далонькі. RD — 109 с.

Папрашу сваю я цётку,
Хай укрые хустаю;
Мамка ўкрыць мяне не можа —
Слёзы льюцца горкія. GP — 17023

Ну, ідзі, сястра, у людзі
І жыві разумненька:
Рана ўстань, ідзі ціхутка,
Хай паспіць свякровухна. RD — 252 с.

Ты не так жыві, дзяўчына,
Як жыла пры мамачцы:
Паўпакоя падмятала,
Паўпакоя — сёстранька. RD — 254 с.

Навучай спяваць, матулька,
Замуж выпраўляючы,
Каб спявала я ў млыночку
І на ніве робячы. KA — 13

І нядоля і бядота
Хай навек адчэпяцца,
А са мной ідуць у людзі
Песні мае звонкія. RD — 105 с.

Пасяваема, сястрыца,
Больш спяваць не выпадзе.
Прыйдзеш часам — сядзеш моўчкі,
Пойдзеш прэч — заплакаўшы. E — Y — 133

Ну, дзяўчына, абувайся —
Босая ж не выедзеш;
У браточка ўжо даўно
Конікі запрэжаны. KA — 16863

Дай маю мне, мамка, долю,
Як сама я лішняя:
Накладзі калёсы з верхам,
Прывяжы карованьку. GP — 16399

Мы, карованька, з табою
З дому разам выберамся:
Ты паперад — мыкаючы,
А я ззаду — плачучы. E — YII — 3210

На цялятак паглядала,
З дому выбіраючыся:
Як цяляткі добра йдуць —
Жыцца будзе добранька. GP — 16481

Поўны куфар я наклала,
І нагамі ўціснула;
Аж пяць коней дыбка сталі,
З мес[illegible] і не зрушылі. E — III — 1610

Як вывозіце, вывозьце,
Толькі не праз ельнічак:
Хусты белыя засыпле
Дробнаю іглліцаю. E — I — 64

Ну, ты слухай, слухай, мамка,—
Я табе ілгаць не буду:
Брат падняў адну дзяўчыну,
Пасадзіў на коніка. E — Y — 3334

Радасць, радасць жаніху,
Што маленькай вырасла:
Танна ў матачкі купіў,
Лёгка ўзняў на коніка. GP — 13660

Я адну вязу дзяўчыну,
Пяць бягуць нявезеных.
Ну, і ліха! Дзе вас дзену? —
Больш братоў нямашака. GP — 18345

Кліча матанька дачку,
На дварэ гукае.
Ні дачкі і ні пасагу
Больш не адшукае. E — YII — 648

Замыкала мяне мамка
Дзевяццю замкамі,
А малойчыкі адкрылі
Вострымі мячамі. E — YII — 609

Дзе ж мая нявестухна,
Што не йдзе да маманькі?
Рукі ўжо мае замлелі,
Каравай трымаючы. [illegible] YII — 1049

Як прывезлі добрую —
Заязджайце з песнямі;
А калі свавольніцу —
Каля плота вывернiце. RD — 144 с.

Расступіцеся, бярозкі,
Каб нявестку ўбачыла.
Як прыгожая нявестка,
Дык вядзіце ў хатаньку. RD — 146 с

Толькі дзверы адчыніла,
Паглядзела на куток,
Паглядзела на куток,—
Дзе павесіць свой вянок. E — VII — 2449

Просім, новая сястрыца,
Аглядзіся добранька:
Калаўрот дзе ставіць, ложак,
Дзе калыску вешаці. GP — 18849

Ліпа з дубочкам
Блізенька селі,
Селі навечна,
Не на дзянёчак. Е — YIII — 536

Каравокая дзяўчына
К брату села блізенька.
Я, хоць родная сястрыца,
Блізка так не села б. Е — YIII — 562



*Просім, новая сястрыца,*
*Аглядзіся добранька.*



За гарой заржалі коні.
І страмёны бразгаюць:
Ну, вязуць браты дзяўчыну,
Што патайна выкралі. GP — 18478

Бацька коніка купіў,
Сын і не падзякаваў;
А як жоначку прывёз —
Дзякуе ды дзякуе. Е — YII — 2609

За вялікі выкуп выбраў
Добрую малольшчыцу,
Бо не грошы жорны круцяць —
Добрая малольшчыца. Е — YII — 3021

Там ты сядзь, брацейка,
Сонца дзе свеціцца,
Дзеўка ж санлівая
Сядзе ў цянёчку. Е — YIII — 517

Так чакалі мы нявестку,
Як усходу сонейка;
А яна ўляцела ў хату —
Галавешкай пырскае! Е — YIII — 2133

Аж заплакалі сіроты,
Як прывезлі мачаху.
— Не бядуйце і не плачце —
Буду вам як мамачка. Е — III — 3375

* У людзях (гл. назву раздзела) — г. зн. замужам.

Дзетка, глянь, каго прывезлі:
Мачаху ці маманьку?
— Мачаху, мачаху,—
Вунь дубец пад пахаю! GP — 18480

Бацька з маткаю спяваюць —
Мне вязуць нявестачку.
Я за печкаю схаваўся,
Толькі вушы торгаюцца. E — Y — 2840

Песні пела, аглядала
Мужавы палетачкі:
І дабротная зямелька,
І араты добранькі. GP — 25909

Пакажы, свякрованька,
Дзе кароўкі мужавы —
Прыбяру іх і прыкрашу
Кветачкамі-краскамі. E — YIII — 283

Толькі лес, кусты, балоты,—
Вось куды я выдадзена.
Ні палянкі, ні лужочка,
Дзе каровак выпусціць. E — I — 96

Дзверы ў людзях нізенькія
І пакоік нізкі-нізкі;
Ў дом улазілі прысеўшы,
У пакой улезлі ракам. E — II — 98

Пахваляўся маладзец —
Пяць коней на выгане;
А прыйшла, гляджу — казёл
У саху запрэжаны. GP — 25872

Пахваляўся бацькаў сын:
Жоранкі сярэбраныя;
Як прыйшла, убачыла —
Жорны проста з каменя. E — YIII — 1023

Ах ты божа,— ну знайшла
Я ў людзях багаццейка:
Тры асовыя палены
У асеці сушацца. GP — 25961



*Тры дні будзем піць вяселле*
*З песнямі і танцамі.*

Што тут будзе, не згадаеш —
Хата ўся прыбраная:
Ці тут брат вяселле справіць,
Ці сястрыцу выдадуць? RD — 78 с.

Ставім піва, хлеб пячом
І гарэліцу купляем,
Тры дні будзем піць вяселле
З песнямі і танцамі. KA — 15978

На вяселле я сабраўся,
На вяселле запрасілі.
На вяселлі мёду вып'ю
З кубачка сярэбранага. RD -- 74 с.

Расступіцеся ў бакі,
Госцейкі вясельныя,—
Маладая пойдзе ў танец
Са сваімі брацейкамі. E — YIII — 955

Я сваю сёстраньку
Вывеў у танец,
Людзі каб бачылі,
Што не кульгавая. E — VIII — 1065

Брацец сястрыцу
Вывеў у танец;
Тройчы прайшоўся —
Іншым пакінуў. RD — 197 с.

Танцаваць дубок пайшоў,
Ліпку ўзяў за ручаньку.
У дубочка — рукавічкі,
Ліпка — з хусткай белаю.
E — VIII — 1060

Не бядуй, мой хлопец, надта,
Што я невялічкая:
Валасы твае даўгія
Ўскалмачу падскочыўшы.
E — VIII — 2078

Як я з цёткамі танцую,
Капялюш — пад пахаю.
Цёткі ўголас ухваляюць:
Во дзе хлопец ветлівы! E — VIII — 1092

Ну, танцуйце, дзеванькі,
Што на лаўцы ўселіся!
Тыя хай сядзяць на лаўцы,
Што зусім састарыліся. E — VIII — 973

Векавуха выйшла ў скокі,
Малайца прыманьваючы.
На аршын скачы, на сажань —
Малайца не вынадзіш. E — VIII — 1026

Дзеўка рукі круціць-верціць —
Хваліцца пярсцёнкамі.
У млынку вярці рукамі,
Пакруці там жоранкі! KA — 21578

Невукі, невукі
Ўсе паязджаны:
Што заспяваем —
Цягнуць за намі. RD — 171 c.

Паязджаны маладой
Ўсе паны вялікія,
А разумнага няма,
Каб з якім пагутарыць. RD — 170 c.

Ты сядзі, сядзі, ятроўка,
Свой лычок адставіўшы;
Паглядзім ужо мы заўтра,
Што ў твой куфар складзена RD — 174 c.

Во надумала сарока,
Каб пабрацца з сокалам;
Хвост даўгі, кароткі крылы —
Як ты з ім палётаеш? ZA — 11605

У сініцы, берасцянкі
На канцы хвост чорненькі.
Вы не кпіце, сакатухі,
Мо і вам так здарыцца. GP — 2529

Вы за песні на мяне,
Люд-людцы, не злуйцеся.
Тое пела, што і ў песнях —
Не самою складзеныя;
Іх бабуленька ў запечку
Ўсе ў клубочак змотвала. RD — 195 c.

*Пойце, жонкі, пойце, жонкі,—*
*На адну пабольшала!*

Паіскрыся зоркамі,
Мой вяночак з бліскавак!
Доўга ты не паіскрышся —
Толькі сёння вечарам. Е — YIII — 1244

Ты трымай, сястрыца, моцна
Свой вяночак бісерны:
Падышоў ужо малойчык
І грошамі дзынкае. Е — YIII — 1302

— Што хочаш, сёстранька,
За свой вяночак?
Хочаш, дадзім табе
Белых авечак?
— Не, не хачу іх,—
Ма́ю сваіх я.
— Што хочаш, сёстранька,
За свой вяночак?
Хочаш, дадзім табе
Бурых каровак?
— Не, не хачу іх,—
Маю сваіх я.

— Што хочаш, сёстранька,
За свой вяночак?
Хочаш, дадзім табе
Конікаў гнедых?
— Не, не хачу іх,—
Маю сваіх я.
— Што хочаш, сёстранька,
За свой вяночак?
Хочаш, дадзім табе
Хлопца-аратага?
— Дайце ж мне, дайце,—
Хлопца не маю! RD — 216 с.

Покуль я была ў вяночку,
Дык цвіла як ружанька;
А вянок знялі з галоўкі,
Прыгажосць і згінула. E — YIII — 1592

Мой вянок вы там павесьце,
Вочы дзе б не бачылі.
Сэрцу больна, як убачу,
А надзець не важуся. E — YIII — 1686

Пойце, жонкі, пойце, жонкі,—
На адну пабольшала!
Плачце, дзеўкі, плачце, дзеўкі,—
На адну паменшала! RD — 221 с.

Я дала сваёй свякроўцы
Тое, што надумала:
Ёй кашулю падарыла,
Хустку вышываную. RD — 247 с.

Мне нявестка плечы ўкрыла
Хусткаю сярэбранай.
Дзе я толькі ні хадзіла,
Серабро ўсё сыпалася. RD — 248 с.

Ой, каго ж, каго я ўкрыю
Хусткай вышыванаю? —
Мамка, сына ўзгадаваўшы,
Дзірваном укрылася. RD — 248 с.

Гадавалі мы сястрыцу
І прыгожа выдалі;
А цяпер, браткі,— дахаты,
Гадаваць малодшанькіх. RD — 270 с.

Паясы і рукавіцы
Падарую брацейкам —
Каб сястрыцу ўспаміналі,
Што вязаць старалася. RD — 249 с.

Я лучын спаліла сотні,
Свой пасаг спраўляючы.
Не згарэла паўлучыны,
Як пасаг раздораны.

Ай, мой божа, брацейка,
Што мы скажам маманьцы?
Мы сястрыцу кінулі
За яду, за выпіўку. Е — YIII — 1404

Як была дзяўчынай,
Спала, а не прала.
Як у людзі выйшла,
Сораму зазнала. Е — IX — 130

Вы, браточкі, ешце, ешце,
Ды пакіньце сёстраньцы;
Каб вясной не давялося
Пабірацца з торбачкай. Е — YIII — 1610

Да таго я быў сп'янелы,
Што не мог пазнаць нікога:
Свайго коніка зваў зяцем,
Сена стог зваў жоначкай. GP — 19758

Ты цяпер, сваточак, змоўкні —
У цябе не ладзіцца;
Хай наш сват цяпер гаворыць —
Не паспееш выслухаць. Е — YIII — 2757

Ты згатуй нам, гаспадыня,
Кіслую капустачку!
Надышоў такі дзянёк,
Што капусты хочацца. RD — 263 с.

Ну, дахаты, ну, дахаты;
Тут рабіць больш нечага:
Ні гарэлкі тут няма ўжо,
Ані піва ячнага. RD — 264 с.

Госці ўчора — за сталом,
Гаспадар — ля прыпечка;
Сёння госці — ля парога,
Гаспадар — на покуці. RD — 261 с.



*Хоць якога ўзяла мужа,*
*З тым і жыць даводзіцца.*

Я аб хлебе не бядую,
Быў бы муж прыгожанькі.
На яго я толькі гляну,
І без хлеба сытая. E — IX — 4176

Ты любі мяне, любі
Аж да самай старасці;
Так любі, як і тады,
Як жыла пры брацейках. RD — 256 с.

Ну, і смешна мне самому —
Жонка жартаўлівая:
Папрасіў я хлеба з маслам —
Губы мне падставіла. KA — 21857

Я з сваёю жоначкай
На паловах месцімся:
На паўложку, паўпадушцы
І на паўпрасціначчы. RD — 234 с.

Пой, круціся, калаўротак,—
Пралля маладзенькая.
Калаўрот прывезлі летась,
Праллю толькі ўчорака. E — III — 17

Ты пакуль, нявестка, няньчы
Белую кудзельку,
А праз год ты будзеш няньчыць
Хлопчыка-аратага. RD — 90 с.

Ты не ві мне, муж, аборы —
Пасталоў не ведала:
У бацькоў была адна я
І хадзіла ў туфліках. E — IY — 2099

Я цяпер не маю волі,
Як у годзе леташнім:
Муж цяпер не адпускае
Пасппяваць з дзяўчатамі. E — X — 4027

Весялілася, спявала,
Свой вяночак носячы;
Як знялі вянок дзявочы,
Весялосць і скончылася. E — YIII — 1584

Падымаю века куфра —
Слёзы так і сыплюцца:
Тут — вясёлыя дзянёчкі
І жыццё шчаслівае. E — IX — 2128

— Пойдзем, жонка, малаціць!
— Ой, баліць галованька!
— Пойдзем, жонка, у карчму!
— Хустка дзе падзелася? GP — 26962

Ой, хітруга, ой, ляная
Жонка твая, брацейка! —
Ногі ў гразь запэцкала,
Кажа, што — працуючы. E — YIII — 1201

Ай, браток ты мой, браточак,
Што ў цябе за жоначка! —
Йдзе даіць у рукавіцах,
Ложак сцеле віламі. E — YIII — 1196

Спі салодка, жоначка,
За цябе ўсё зроблена:
Свінка выкапала бульбу,
Козка выбрала капусту,
Курка выпалала моркву,
Пеўнік суччa нанасіў,
Жучык печку распаліў,
А каточак масла збіў. E — II — 3531

Першы год мужык казаў:
Кветка мая, жоначка!
На другі год, трэці год:
Ведзьма ты абрыдлая! GP — 23046

Ах ты, божа, што рабіць —
Мой мужык — п'янчужына!
Ўсё прапіў: прапіў ён грошы,
Хусткі мае белыя. KA — 26925

Хоць які спляла я лапаць —
Хай нага даношвае;
Хоць якога ўзяла мужа,
З тым і жыць даводзіцца. КА — 22946.1

Ажаніўся са старою,—
На багацце квапіўся.
Ні багацця я не маю,
Ні жыцця шчаслівага. КА — 22053

Багатыр узяў багачку —
На пасаг паквапіўся.
Я сабе сіротку выбраў,
Дзеваньку стаpанную. Е — IY — 1665

Не пайду гасціць да братцаў,
Не напёкшы булачак:
Там пляменнікі чакаюць,
Там чакае маманька. GP — 26486

Маці кажа: госця йдзе!
— Ну, якая ж госця я?
Тут радзілася, расла,
Тут вянок мой сплецены. GP — 26552

Ну, ідзе сястрыца наша,
Ну, ідзе і не адна:
Мужанька вядзе з сабою,
Як бычка на повадзе. GP — 26431

Да мяне прыходзь, сястрыца,
Да цябе ісці мне нельга:
Татка з мамкай цябе пусцяць,
А мяне свякроў трымае. Е—VIII — 1972

Ці спяваю я, ці плачу,
Не пачуе маманька;
Многа гор і многа долаў
Да радзімай хатанькі. Е — X — 3856

Запражы мне, муж, кабылку,—
З'езджу я да маманькі!
— Запрагаці я не буду,—
Выедзеш — не вернешся.

— Каб я мелася застацца,
Я пасаг з сабой забрала б,
Я пасаг з сабой забрала б,
Хусткі свае белыя. Е—YIII — 1706



*Будзь ты добраю, свякроўка,*
*Я таксама добрай буду.*

Так любіць свякроўку буду,
Як матульку родную,
Бо і ёй жылося цяжка,
Як і роднай мамачцы. GP — 23165

Будзь ты добраю, свякроўка,
Я таксама добрай буду;
Як дачкой мяне зваць будзеш,
Буду зваць я маманькай. GP — 23152

Усе людзі добрыя,
Як сама я добрая;
Усе людзі ворагі,
Як сама задзёрыстая. GP — 23906

Замуж йшла — усё я ўмела,
Але ўменне стойвала:
Берагла свякровін гонар —
Хай мяне падвучвае. Е—VIII — 1134

У сваёй матульні роднай
Ўмела ўсячыну рабіць.
У чужой цяпер не ўмею
І сабаку накарміць. Е — III — 2891

Я хачу, ды не па сіле
Дагадзіць свякроўцы:
Стойма ногі абуваю,
Бегма апранаюся. Е — III — 2893

Знемагла чужая маці,
Нада мной пануючы;
Скуль матулька сілы брала,
Песцячы, ляляючы? Е — III — 3994

Першы год табе, нявестка,
Ножык не спатрэбіцца.
На другі год будзеш рэзаць
Тое, што зароблена. Е — YII — 2475

Ой, і цяжка давядзецца
Жыць табе, нявестачка:
Ні вязаць, ні шыць не ўмееш,
Ні пячы аладачкі.
Што на думках мамка мела,
Замуж выпраўляючы? RD — 9 с.

Не надумайся, нявестка,
Стаць тут гаспадыняю:
Ты даільшчыцаю будзеш,
Буду я працэджваць. RD — 174 с.

Першы год свякроў казала:
Дочухна, нявестачка!
А другі год, трэці год:
Дзе, цюхцяйка, дзелася? GP — 23362

*Хай шукаюць людзі шчасце,*
*А маё ў хлявочку шчасце.*



Хлопцы маюць свой набытак —
Маюць гнедых конікаў;
У дзяўчат набытак іншы —
Шмат авечак беленькіх. А — 4806

Грошы ўсе свае аддаў
За коніка добрага;
Як усеўся на яго,
Беды ўсе забыліся. ZA — 5796

Гнеды мой жарабок,
Беленькія ножкі:
Лёгка, роўненька нясе,
Павадочка слухае. Е — II — 2539

Мой кавалік, мой браточак,
Ты падкуй мне коніка:
Каб падкоўкі — з талераў,
А цвічкі — залочаныя. ZA — 5174

Падкаваў я коніка
Залатымі талерамі;
І без месячыка ўночы
Мне дарога свеціцца. Е — II — 2769

Хоць малы ў мяне палетак,
Ды багата збожжа родзіць;
Хоць малы мой сівы конік,
Робіць за вялікага. ZA — 4851

Хлопцы іншыя ўюць пугі,
Я ж каня падкормліваю;
Пугай іншыя сцябаюць,
Я ж за лейцы стрымліваю. ZA — 5464

Гнедка мой удалы конік,
Ножкі ў яго стройныя;
Перабрыў ўсе балоты,
Перайшоў і горачкі. ZA — 5022.1

Як па полі я імчаўся,
Горы, долы трэсліся,
А па лесе як скакаў,
Сосны, елкі гнуліся. ZA — 5300

У нізіначцы пасуцца
Два гнядыя конікі;
У сястрын пасаг — адзін,
Мне другі спатрэбіцца. ZA — 5042b

Ты бяжы, мой конік, рыссю,
А не крокі лічачы;
Ці ж лічу авёс па зерні,
У кармушку сыплючы. ZA — 5685

У дарогу я пусціўся
На кані нячэсаным;
Павярну на край дарогі —
Хай кусты расчэсваюць. E — II — 2909

Пяць сыночкаў ёсць у бацькі,
А конік — адзін-адзіны;
Дый таго ніхто не корміць,
Брат на брата зыркаюць. ZA — 5566

Як убачыў, здагадаўся —
Гэта конь п'янчужаны:
Ногі цягне, голаў звесіў,
Мухі вочы высмакталі. ZA — 5653

Хай шукаюць людзі шчасце,
А маё ў хлявочку шчасце:
Аж ільсняць кароўкі, цёлкі,
І даёнка поўніцца. ZA — 4818

У мяне адна кароўка,
Спраўная, удойлівая:
Што ні дзень збіваю масла,
Што ні дзень вяжу сырочак. ZA — 6258

Я адну кароўку маю
І заву Мурашкаю;
Хай жа плодзяцца цялушкі,
Як мурашкі ў доміку. ZA — 6185

Наядайцеся, кароўкі,
Каб бакі ільсніліся.
Хай мне мачаха не кажа,—
За гарой вылежвала. KA — 28988



*Той, каровак хто пасе,*
*Мае сыр за пазухай.*

Мой стары дзядуленька,
Пасталы ці сплецены?
Мне ісці каровак пасвіць,
А раса сцюдзёная. ZA — 7606

Мне спячы праснак, матулька,
Паганю каровак.
Як спячэш праснак вялікі,
Папасу на выгане,
А калі спячэш маленькі —
Толькі за варотамі. КА — 28843.2

Я пасу і раніцай,
Я пасу і ўвечары.
Ты акрый мяне, матулька,
Пастушковай хусткаю. ZA — 7592b

Пастушкі ўжо выганяюць,
А мяне пакінулі.
Пачакайце, пастушкі,
Покуль я абуюся. ZA — 6767.2.3

Ой, як цяжанька жывецца
Мне, малому пастушку:
Ці то слота, ці то вецер —
Цэлы дзень усё пасу. Е — II — 2325

Лїся, дождждык, колькі хочаш,
Праз цябе я не бядую,
Праз цябе я не бядую,
Бо пад дуб схавалася. ZA — 10566

Камары, сляпні ды мошкі,
Пастушка не мучайце.
Лепш паноў, падпанкаў джальце —
Маюць час пачухацца. ZA — 7376

Сонца, ясная матулька,
Зазірні на пашаньку;
Пастушковы дзень бясконцы,
Як не бачна сонейка. ZA — 7394

Выйдзі, сонца, зранку рана
І заходзь не познячыся:
Зранку — саграваючы,
Вечарам — шкадуючы. E — I — 1855

Ой, туман, смуга, раса,
Не студзіце брацейку!
На пагорачак узбегла
І туман развеяла. ZA — 6017

Гаспадыня ўсё пытае:
— Ці каровы сытыя?
— Ды ўжо сытыя каровы,
Толькі я галодная. ZA — 7542

Я пасу свае авечкі
Без дубца, без розачкі;
Толькі зрэдку памахаю
Беленькаю хусткаю. ZA — 7080.1

Як на пашу выганяла,
Дзве работы я рабіла:
Як хадзіла, дык вязала,
Як сядзела — вышывала. ZA — 7962

Я сабаку хлеб давала
Скібамі вялікімі:
Ён каровак маіх пасвіць
Лецейка ўсё доўгае. KA — 29412

Той, каровак хто пасе,
Мае сыр за пазухай;
Той, авечак хто пасе,
Носіць хусткі белыя. ZA — 7840

Ну і статак у мяне
Пасвіцца на выгане! —
Шэсць свіней і пяць кныроў,
Сотня парасятак. ZA — 6443.2

Добра, добра лесічанцы
Статак пасвіць пры ляску:
Вецер вее — у зацішку,
Сонца паліць — у цяньку. Е — І — 21

Паша — аж людзям надзіва;
Скрозь трава высокая;
Будзе козачцы, авечцы
І рабой кароўцы. ZA — 6822

Хто спявае рана зранку,
А хто позна вечарам?
Рана зранку — пастушкі,
Вечарам — начлежнікі. ZA — 5970

Цёмнай ноччу на травіцу
Я пусціў жарэбчыка —
Хай жарэбчык мой паесць
Канюшыны роснае. ZA — 5863

Рана пець пачаў жаўрук,
Пабудзіў начлежнікаў.
Ну, пара ўжо падымацца,
Паглядзець — дзе конікі. ZA — 5920

За туманам, за смугою
Не знайшла я коніка;
Толькі сонца паказала —
На чужой ён нівачцы. ZA — 6012

Выплакала вочанькі,
За свінямі бегаючы;
Хай жа бог ваўку паможа
Па адной іх выцягаць! КА — 29138

Я папасвіла каровак
На лужочку ў гультая;
Лодар доўта абуваўся —
А кароўкі сытыя. КА — 29330

Дзед да баба пасвіць выйшлі,
Многа шкоды нарабілі:
Свінні нівачку парылі,
Цёлкі жыта выелі. ZA — 7887

Ну, ідзі ідзі, Рабунька,
Дзеці зачакаліся,
Дзеці зачакаліся —
Малачка ім хочацца. ZA — 8257

Заганяйце ў двор каровак,
Сонца ўжо схавалася;
Ля варот чакае мамка,
У руцэ даёначка. ZA — 8231



*Лісь дождж, прынясі нам*
*Лецейка багатае.*

Ты цвіці, цвіці, папар,
Жоўценькімі кветкамі;
Узарэ цябе араты
Чорнымі дзярнінамі. ZA — 1637

У каня я запытаўся:
— Ці даўгую гнаць разору?
— Засыпай аўса у яслі,
Праганяй да ўзмежачка. Е — II — 1057

На гары арэ браточак,
Я стаю ў нізінцы.
У браточка пот ліецца,
А ў мяне дык слёзанькі. ZA — 1602

Ах, татулечка старэнькі,
Век ты ходзіш за сахой;
Цяжка-цяжанька ўздыхаеш,
Баразну закончыўшы. КА — 27912b

Бачу, бачу я здалёку
Гультая нядбалага:
Покуль пройдзе баразёнку,
Сонца ўжо на полудні. ZA — 1671

Я здалёку распазнала:
Мой ратай вяртаецца —
Ногі глінаю абліплі,
Конік потны, змучаны. ZA — 1752

Весяліцеся, сястрыцы,—
Ну, браты абсеяліся
І павесілі сявенькі
На цвікі сярэбраныя. ZA — 1872

Ліся, дождждык, прынясі нам
Лецейка багатае!
Хай расце ячмень на ніве
Каласамі поўнымі. ZA — 2124

На тваёй, браточак, ніве
Жыта ходзіць хвалямі.
Я на ўзгорачку стаяла,
Краю і не згледзела. ZA — 1989

Жытні колас нахіліўся,
Як жняі чакаючы.
Да мяне хіліся, колас,
Я сажну спяваючы. ZA — 2223

Цяжка жыту-небараку,
Тры бяды на восені:
І сажнуць, і туга звяжуць,
І паб'юць галованьку. ZA — 2225

Восень к нам наведалася,
Зерне ў клець пасыпалася;
Будзе хлебец ратаёчку
І авёс для коніка. ZA — 2696

Мне браточак цэп зрабіў
З ліпавага дзерава,
Каб магла я лёгка біць,
Лёгка зерне выбіваць. ZA — 2414

Ты цвіці, мой лён высокі,
Кветачкамі сінімі.
Ёсць у Рызе шмат купцоў
З шапкамі высокімі. ZA — 3449.1

Ліся, ліся, часты дожджык,
Хай нап'ецца нівачка,
Хай расце мой лён высока,
Як чарот на возеры. E — I — 1712

Ой, лянок ты мой, ляночак,—
Як і я — высокенькі!
Будуць белыя кашулі,
Прасціраддлы белыя. Е — II — 1390

Рана пеўні заспявалі
На падворку татавым;
А яшчэ раней — браточкі,
Лён у ёўні трэплючы. ZA — 3808

Я лянок чашу старанна
Па адзінай пасмачцы,
Каб магла я тонка прасці,
Ткаць абрусы тонкія. ZA — 3816

Што з табой было б, ляночак,
Каб дзяўчаты не ўзраслі?
Хто лён браў бы, хто лён ткаў бы,
Вышываў узорамі? KA — 6993

Цяжка ўсім, усім не лёгка,
А ляночку найцяжэй:
Рвуць валоссе, рэжуць голаў.
Топяць костачкі ў вадзе. ZA — 3707

Што там ззяе, зіхаціць
На лугу на ўскраіне?
Мой браточак сена косіць
Коскай пазалочанай. ZA — 2882

Вы спрытней касіце сена,
Покуль травы росныя;
А калі расінкі сыдуць,
Цяжка пойдзе косанька. ZA — 2849

Не бярэ мая каса,
Бо сама выклёпвала,
А як мілы накляпаў,
Дык кашу спяваючы. ZA — 2951

Ліся, дождж, там, дзе хочаш,
Тут цяпер ты без патрэбы,
Тут цяпер хай сонца грэе,
Тут цяпер мы сена сушым. E — I — 1802

Упыніся, дождж, не ліся,
Сёння нам дажджу не трэба:
Сёння братцы канюшыну
Сціртаваць наладзіліся. E — I — 1801

Цэлы дзень касіў я сена,
Нават плечы скурчыліся.
І не ведаю, хто ўвечар
Мне іх зноўку выпрастае. E — II — 1222

Ты, капустачка, капустка,
Што ты буйна не расцеш?
— Бо старая пасадзіла,
Палівала дзіцетка. ZA — 3185

Дзе паўзком, а дзе і ракам
Братаў боб прапалвала.
А як боб чакае ў місцы,
Ракам я не поўзаю. KA — 28205

Што гарошак, што бабочак —
Самыя найлепшыя:
Іх не веяць, не таўчы,
А вары без клопату. ZA — 3155

Ай, барвяны яблычак,
Моркаўка салодкая!
Тут — вачам не наглядзецца,
Зубкам — не нацешыцца. ZA — 3236

Хмель — вялікі мудрагель,
Поўзае па дзераве;
Ну, а бульба дык дурная,
У зямлю ўтачылася. ZA — 3201

Дзед сівы і хмель зялёны
Па-сяброўску зладзіліся:
Дзед паставіў хмелю тычку,
А хмель дзеда танцам вучыць.



*Многа рук і многа ног*
*Спрытна ўсё адужалі.*

Ліся, дожджык, хоць штодня,
Ды не сёння раніцай:
У братка на полі сёння
Талака вялікая. ZA — 3873.3

Ніва думала — хацела
Спіны нашы пазгінаць.
Ты сама пачнеш згінацца,
Як усе мы выйдзем жаць. E — II — 1105

Люба, люба лён ірваць
Грамадай вялікаю:
Можна многа нарабіць,
І зусім не зморышся. ZA — 3863

Ай, кветачкі, траванькі,
У кусты хавайцеся:
Грамадой ідуць дзяўчаты,
Дый усе з матыкамі. ZA — 1886

Дзве рукі і дзве нагі
Працы ўсёй не здолелі;
Многа рук і многа ног
Спрытна ўсё адужалі. GP — 28417

Хлеб пячы пшанічны, мамка,
Піва стаў салодкае —
Дзеці ўсе твае сышліся,
Мяць лянок закончыўшы. ZA — 3818

Шчыра, шчыра запрашае
Гаспадынька ў хатку,
Талачанам ежу ставіць
З рознымі прысмакамі. ZA — 4105

Талака ўвайшла ў вароты;
У хляве баран замэкаў;
Хоць ты мэкай ці не мэкай,
А з'ядуць увечары. GP — 28496

Парасё прабегла міма,
Як ішоў я малаціць.
А вяртаюся я з току,
Парасё — у місачках. KA — 28838

Столік ты наш, столічак,
Ножкі падагнутыя!
Не ад срэбра-золата,
Ад хлябоў знясіліўся. ZA — 2754.1

Лапаць слёзы выцірае,
Пад услонам седзячы:
— Панайшло тут столькі ў ботах,
Чыста ўсё вылізваюць! GP — 20426

Я араў, араў на полі,
Аж конік упарыўся;
Піва піў я, піў пакуль
З валасоў закапала. KA — 28837

Талака піла і ела;
Ґаспадынька скардзілася:
Многа выпілі і з'елі,
А зрабілі крышачку. GP — 28490

Лепш было б, каб гэты солад
У карыце свінні з'елі,
Чым піўцо, што наварыла,
Ды без песень выпілі. GP — 782

Дзякуй, дзякуй, гаспадар,
Дзякуй, гаспадынька,
За частунак смачненькі,
За прыманне шчырае. ZA — 4111



*У дачушкі пчаляровай*
*Ўвесь вянок у золаце.*

А чые ўсе горы, долы,
А чые дзяды-дубы?
Жыта — горы, проса — долы,
Пчолак — волаты-дубы. E — II — 939

Двух багатых ганарацца,
Што не змерзнуць у мароз:
Пчолка ў хатачцы драўлянай,
У зямельцы цёплай — жыта E — I — 1117

Абабіла я дубочак
Дробнымі цвічкамі,
Каб не слізгаліся ў пчолкі
Ножанькі кароткія. E — I — 1153

Лес гамоніць, лес шуміць,
Роем пчолкі лётаюць;
У мой дуб, на радасць мне,
Пчолкі пазляталіся. E — I — 1086

Я здалёк даю дарогу —
Пчалярова дачка едзе:
Хустка — з крылцаў пчолчыных,
Туфлікі — васковыя. ZA — 12260

У нявесты ратаёвай
Сакта срэбрам бліскае;
У дачушкі пчаляровай
Ўвесь вянок у золаце. ZA — 12244

Дуб плыве, плыве па рэчцы
І з усімі пчолкамі;
Жонка-бортніха ўздагон
Гоніцца, галосячы. ZA — 12567

Просіць пчолка у касца,
Да зямлі аж кланяецца:
Хай пакіне канюшыну
Хоць бы там, дзе купінка. ZA — 12482.2

Хітры той і хітры гэты —
Пчолы найхітрэйшыя:
Лез мядзведзь да іх на дуб,—
Пчолы ў пысу джалілі. ZA — 12601

Ты ідзі, гультай, да пчолкі,
Навучыся дбаласці:
Ні цівун, ні пан над ёю,—
Без прынукі рупіцца. ZA — 12443



*Я па скарб ішоў у мора*
*І трымаў душу ў далонях.*

Добра, добра мне жывецца
Побач з морам сінім:
Хвалі коцяцца на бераг,
Серабро выкідваюць. ZA — 13252

Для сястрыцы рыбаковай
Мора ўвесь пасаг прыдбала:
Куфар золата і срэбра,
І бурштын падыспадам. ZA — 13248

Ты зрабі мне, татка, лодку,
Парус вытчы, маманька,
Каб я мог у мора выйсці,
Пацягацца з Зе́мелісам *.
Земеліс б'е пенай белай,
Белы парус я ўздымаю,
Супраць хвалі лодку праўлю —
Лодка аж ляціць удалеч.
Лодка аж ляціць удалеч,

* Зѐмеліс — міфічнае ўвасабленне паўночнага ветру (сіверу).

К дому Земелісаву.
Дочкі ў Земеліса — кралі,
Тут і выберу нявесту. ZA — 13020

Татка мне майструе лодку,
Дошкі з ясеню габлюе;
Парус белы тчэ матулька,
Ільняныя ніткі сучыць.
Ты ляці па моры, лодка,
Па сто міль пры сонейку,
Па сто міль пры сонейку,
Дзвесце міль пры месяцы. E — I — 1546

Выйдзі, мамка, углядзіся —
Блізка лодка сынава!
Парусоў ці не спазнала,
Што сама і выткала?
Эх, каб мне ды тыя грошы,
Што на дне марскім схаваны —
Рыжскі замак я купіў бы
Ды з усімі немцамі.
Я рабіў бы з немцам гэтак,
Як рабіў са мною немец:
Я б яго скакаць прымусіў
На цаглінах паленых.
Чым вышэй скакаў бы немец,
Тым я больш падпальваў. KA — 31873

Эх, малая мая лодка,
Ды і парус лаплены —
Не магу ніяк угнацца
За другімі лодкамі. E — I — 1627

Цяжка тым і цяжка гэтым,
Рыбаку дык найцяжэй:
Дождж ліе ці вее снегам,
А рыбак — у лодачцы. E — I — 1594

Пасядзі ты, Маці Ветру,
На засохлай елачцы —
Хай браточкі пераедуць
Цераз рэчку Даўгаву. GP — 30825

Маці Мора, Маці Мора,
Утаймуй сваіх служанак:
Хусткі белыя ўзнімаюць,
Не даюць на бераг выйсці. GP — 30772

Я па скарб ішоў у мора
І трымаў душу ў далонях.
Дарагія ў моры скарбы,
А душу за іх не купіш. ZA — 13328

Як у мора йду — ўздзяваю
Белую кашульку:
І жыццё, і смерць — усё тут
Пад маімі ножкамі. KA — 30893

Як у мора я выходзіў,
Мора зваў я маманькай,
А выходзіў як на бераг:
— Ведзьма ты сапраўдная! ZA — 13334.2

Сонца позненька ўзыходзіць
Бляклае ад жаласці:
Патанула ўчора лодка
З парусамі срэбнымі. E — I — 1514

Маці Мора, Маці Мора,
Дзе ты брата майго дзела?
Трэці вечар я чакаю —
Ён і не вяртаецца. ZA — 13379

І куды вы, груганы,
Леціце так позненька?
— Да матулькі, вестку даць,
З мора сын не вернецца. GP — 30796

Выйшлі ўчора два браточкі
Ў мора сетку запушчаці.
Сёння зранку па ўзбярэжжы
Йдзе сястра, раняе слёзы,
Йдзе сястра, раняе слёзы —
Не знайсці браткоў ёй родных.
Рыбакоў трох напаткала —
Рыбу з сетак выбіралі.
— Вы, марскія рыбаловы,
Пра браткоў мо ведаеце?
— Ты, дзяўчына-прыгажуня,
А якія ж браткі тыя?
— Рослыя і гожыя,
Валасы, як лён, бялёсы,
Валасы, як лён, бялёсы,
Шчокі нібы мак чырвоны.
— Ах, дзяўчына-прыгажуня,
Спяць браточкі ў моры сінім,
Шчокі драпае пясочак,
Валасы вада матляе.
— Ай, марскія рыбаловы,
Вы браточкаў падыміце!
— Ай, дзяўчына-прыгажуня,
Аддарыць нам чым ты можаш?
— Аднаму я дам кашулю,
Дам другому хустку з шоўку,
Трэцяму, малодшаму,
Дам яму я ручаньку,
Дам яму я ручаньку,
Залаты пярсцёначак. Е — I — 1530

*Што, мядзведзь, раскінуў лапы?*
*Доўга ў лесе панам будзеш?*

Цэцярук разбалбатаўся,
На бярозе седзячы.
Ну, ты заўтра пабалбочаш,
Як укіну ў торбачку. ZA — 12179

Не так лёгка мне далася
Шапачка куніцавая:
Колькі ночак праляжаў я
Ў маладым сасонніку. ZA — 12015

Ай, куніца, ай, куніца,
Кажушок багаценькі:
Рыжскі пан і той не здолеў
Чыстым срэбрам выплаціць. ZA — 12026

Хто брыдзе па возеры,
Хто ў аеры шастае?
То алень брыдзе вадою —
Ад ваўка хаваецца. ZA — 11614

Ты, зубёр, пасцеражыся —
Следам едуць ворагі,
І з тваіх рагоў баяры
Віно піць збіраюцца. ZA — 12058

Жоначка аратага
Пела, жыта мелючы.
Жонка паляўнічага
Торбу шыла, плакала. ZA — 11934

Ай вы, елачкі, сасонкі,
Як вы стромка выраслі!
Дзеля вас куюць у Рызе
Серабро і золата. ZA — 10965

Пляжце ўсё, што толькі трэба,
А дубоў не нішчыце:
Пастушку не будзе ценю
І вянка для Яначкі. ZA — 12642

Грыбнікі, хутчэй устаньце,
Што да дня вылежвацца?
Рана ўсхопіцца вавёрка
І грыбы павыбера. GP — 2841

Адпусці ў лясок, матулька,
Каб брусніцыназбіраць,
Каб расла я, чырванела
Ягадкай-бруснічынкай. ZA — 12736

Што мне ягады збіраць —
Я сама што ягадка.
Ды ці варта дзеля ягад
Гнуць свой стань прыгожанькі.
ZA — 12756.2

Клёны, ясені, дубочкі —
Лесніковы брацейкі.
Як хавалі лесніка,
Дрэвы горка плакалі. ZA — 12681

Елачка, сасоначка
Ўзлезлі на пагорачак,
А вярбу-няўдаліцу
Аж у дол адсунулі. ZA — 10788

Не ламай, сястра, бярозку,
Самую вяршалінку.
Як вяршалінку ты зломіш,
Застанешся ўдоваю. ZA — 10721

Дуб разгалісты, вялізны,
Хто твае гады палічыць?
Я радзіўся, ты быў дужы,
Я памру, а ты жыць будзеш. ZA — 10875

Ўсе звяры жывуць у згодзе;
Воўк з лісіцай сварацца,
Воўк з лісіцай сварацца
За гнядога коніка. ZA — 11782

Што задумаўся, ваўчуга,
На карчы рассеўшыся?
Ці ягнят надумаў красці,
Ці каня суседавага? ZA — 7276

Людзі, крыкніце, хто вольны:
Воўк шкумаціць коніка!
Сам бы крыкнуў, ды заняты —
З дзеванькай цалуюся. GP — 11222

Жораў плача, жораў енчыць
На балоце тваністым:
Застудзіў данельга ногі,
Па балотах ходзячы. ZA — 11265.1

Дзяцел — стук ды стук — дзяўбе,
У пярэстай вопратцы.
Я такое не разжыўся,
Дзень і ноч працуючы. ZA — 11253

Птушкі ўсе спяваюць гожа,
Толькі дзяцел не спявае;
Ды і як тут заспяваеш,—
Парахня ўсярэдзіне! GP — 2453

Птушкі ўсе вяселле ладзяць
У пару вясновую:
Дрэвы сок вясной пускаюць —
Піва не спатрэбіцца. ZA — 11027



*Што ты, божа, так прызначыў —*
*Таму добра, таму дрэнна?*

Углядзіся, сонейка,
Зарабляць як цяжанька:
Малаціла і малола,
І цяпер на постаці. ZA — 4421

Ты каціся к богу, сонца,
Дай хоць вечарам спачыці.
Жорсткі пан дае работы,
Не дае спачыначку. GP — 31659

Хто там, хто яшчэ спявае
Гэтак позна ўвечары?
То спяваюць сірацінкі,
Панскіх ніў работнічкі. GP — 4063

Не чакай мяне, матулька,
Не прыйду я начаваць:
Хоць і сонца ўжо не бачна,
Я ж на панскай нівачцы. KA — 31693

Пекла, пекла панскі ток,
Пекла клуня панская;
Там я тварык свой ружовы
Восенню выбельваю. GP — 31538

Буду, мелючы, спяваць,
Хай мой голас чуецца,
Хай не кажа гаспадыня,
Што ад працы сумная. ZA — 4519

Працавала, знемагала,
А матульцы не казала,
Каб яна не ведала,
Горка каб не плакала. GP — 31652

І здалёку я спазнаю
Батракову жоначку:
Плача, слёзы выцірае
Белаю хусцінкаю. KA — 31102

Кажушок уздзеў, сярмягу,
К пану йсці збіраючыся;
Як сярмягу пан здзярэ,
Кажушок і выратуе. KA — 31371

Горка-горка слёзы лью
Ўсё ад панскай ласкі:
Я каня купіў учора,
Сённека ён — панскі. KA — 31365

Ты не ведаеш, браточак,
Як жывецца цяжанька!
Воўк каня майго зарэзаў,
Пан забраў нявестачку. GP — 31368

Што ты, божа, так прызначыў —
Таму добра, таму дрэнна?
Таму даў багата грошай,
Таму кій у ручаньку. KA — 31212

Гаспадар шкадуе хлеба,
Мне шкада знясіліцца.
Хлеб на ніве вырастае —
Дзе ж мне сіла вырасце? Е — II — 3557

Гаспадынька дробненькая,
Галасочак ласкавенькі;
З-за такога галасочка
Ў тыдні па тры наймічкі. GP — 31099

Хай усе дазнаюць людзі,
Хто тут гаспадыняю:
Па сцягне далонню лясну,
Каб ключы забразгалі! GP — 31098

Застанешся, гаспадыня,
Ты зусім без парабкаў:
Без вячэры ўчора гнуўся,
Без снядання сённека. KA — 31129

Плача бацька, плача матка,
Плачуць з імі дзетанькі.
Ды і як жа ім не плакаць —
Хлеба ні драбіначкі. Е — I — 3234

Што капустачка-качанне —
Гэта ежа парабкава;
Белы хлебец, піражочкі —
Для сыночка панскага. Е — II — 3788

І адкуль вада ўзялася б,
Каб дажджы не налілі?
Дзе баяры служак бралі б,
Каб сіроты не раслі? GP — 4730

Не паесць свіння з карыта,
Ногі каб не ўсунуўшы.
Пан не вып'е кубка піва,
Батрака не вылаяўшы. Е — II — 3256v

Што, паночак, ты рабіў бы,
Каб усе мы вымерлі?
Хто б табе на хлеб заробіў,
Хто б цябе ўшаноўваў? КА — 31307



*Ты прыходзь хутчэй,*
*вялікдзень,—*
*Дзеці зачакаліся.*



Абдымайце плот, дзяўчаты,—
Сёння вечар масленічны;
Хто абдыме жэрдкі ў па́ру,
Тую хутка выдадуць. ZA — 14361

Патанцуй жа, гаспадыня,
Вечарам на масленіцу,
Каб твой статак танцаваў
Увясну на выгане. ZA — 14366

Ты прыходзь хутчэй, вялікдзень,
Дзеці зачакаліся,
Дзеці зачакаліся,
Ля варотаў седзячы. GP — 32288

Вы над ворнаю зямлёю
Гушкалку не вешайце;
Там, дзе ворная зямелька,
Закапана золата. ZA — 14461

Вы не вешайце, браточкі,
Гушкалку на горачцы:
Месяц доўгімі рагамі
Ў мой вянок учэпіцца. ZA — 14455

Як высока вы, браточкі,
Гушкалку павесілі!
Не змагла дзяўчына ўзлезці,
Просіць памагатага. ZA — 14506

Што вялікдзень мне прынёс
За чаканне доўгае?
Хустку даў шаўковую —
Ветрыку памахваць. ZA — 14555

Ну, бывай ужо, вялікдзень,
Са сваімі гушкалкамі!
Прыйдзе Янаў дзень *, і буду
Віць вянкі дубовыя. ZA — 14566



*Хлопцы ўсе, усе дзяўчаты,*
*Ноч на Янаў дзень не спіце!*

Дзякуй, дзякуй, маманька,
Што назвала Янačкам:
Янаў дзень калі надыдзе,
Будуць славіць песнямі. E — I — 2195

Янаў дзень, прыходзь, не бойся,
Мы цябе даўно чакаем.
Сёння дзень і заўтра дзень,
А пазаўтра Янаў дзень. ZA — 14594

Янаў дзень, прыходзь, не бойся,
Мы цябе чакаем шчыра:
Мы сыроў панавязалі,
Піва-хмелю наварылі. ZA — 14604

---

* Янаў дзень — старажытнае свята сонцастаяння, святкаванне якога пачыналася напярэдадні ўвечары (ліго) і працягвалася ўсю ноч — з багатымі народнымі традыцыямі, блізкімі традыцыямі купалля. Свята ліго адзначаецца і цяпер, як народнае свята. Песні, прызначаныя святу ліго і Янаваму дню, спяваюцца з прыпевам пасля кожнага радка: ліго, ліго!

Цэлы год сыры вязала,
Янаў дзень чакаючы,
Янаў дзень як надышоў,
Я сыры раздорваю. ZA — 14633

Янаў дзень, дзянёчак Янаў,
Як цябе мы прычакаем?
Шчыра песнямі прывецім,
У пару́ абсеяўшыся. ZA — 14598

Я на Янаў дзень цялушцы
Не забыла звіць вяночак;
Мне ў пасаг цялушка будзе,
Як у людзі выдадуць. ZA — 14994

Я авечак выганяю
Ў ноч на Яна на папас:
Гэтай ноччу ў полі росна —
Хай авечкі мыюцца. ZA — 15084

На струмень вянок пусціла,
Янаў вечар славячы;
Паплыве вянок далёка —
Быць далёка замужам. ZA — 17021

Нельга спаць уноч на Яна —
Гэта не на добрае;
Збажына паляжа ў полі —
І ячмень, і жыцейка. ZA — 15288

Хлопцы ўсе і ўсе дзяўчаты,
Ноч на Янаў дзень не спіце!
Хто не спіць у ноч на Яна,
Той вяселле ўвосень справіць
ZA — 16926.2

Выйдзі, выйдзі, Янаў бацька,—
Дзеці Янавы * чакаюць.
Згаладалі і сасмяглі,
Твой дварок шукаючы. ZA — 16089

Маці Янава прыгожа
І пакой прыгожанькі:
Столь бярозкамі прыбрана,
Дол аерам высланы. ZA — 16066.1

Мы вянком з дубовых лісцяў
Бацьку Янава прыбралі;
Хай гадуюцца сыночкі,
Як дубы — магутныя. ZA — 16165

Мы вянком з галінак ліпы
Ўбралі маці Янаву;
Хай растуць, красуюць дочкі,
Як і ліпы — зграбныя. ZA— 16170

Янаў бацька, поруч маці
За сталом на покуці,
На галовах іх вяночкі
З лісцейка дубовага. ZA — 16160

Расчыняйце дзверы, вокны,
Хай заходзіць бочка піва!
Дзеці Янавы сасмяглі —
Кветкі Янавы збіралі. ZA — 16572

Выйдзі, Ян, з трубою меднай,
Кінь свой кліч у Янаў вечар!
Дзеці Янавы хай прыйдуць,
Песні Янавы спяваюць,

---

* Янавы дзеці — усе ўдзельнікі святкавання свята Ліго і Янавага дня.

Песні Янавы спяваюць,
Кветкі Янавы збіраюць,
Піва Янава хай льецца,
Янаў сыр ідзе на закусь,
З-пад смалы хай бочкі паляць,
Хай вяночкі завіваюць,
Хай сустрэнуць Янаў ранак,
Хай глядзяць, як сонца грае. ZA — 15737

Як я пасвіла свой статак,
Песні змотвала ў клубочак;
А як Янаў дзень прыйшоў —
Хай клубочак коціцца! ZA — 14739

Цэлы год збірала песні
Ў свой куфэрак срэбраны;
А пад Янаў дзень увечар
Па дварэ рассыпала. ZA — 14737

Усе ночанькі прыгожы,
Ноч на Яна — прыгажэй:
Ноччу папаратка ззяе
Залатымі кветкамі. ZA — 14843

Ноч на Янаў дзень каротка,
Карацей за іншыя:
Не прапела і палову
Самых лепшых песенек. ZA — 17181

Ян штогод да нас прыходзіць,
Дзетак каб сваіх адведаць:
Ці было што есці, піці
І ці Яна ўспаміналі?
Не пілі яны, не елі,
Ды і Яна не ўсхвалялі,
Горка слёзы пралівалі:
Не было што есці, піці.

Жорсткі пан і прыганяты
Хлеб увесь пазабіралі,
Хлеб увесь пазабіралі,
У ярмо саміх запрэглі. ZA — 15419

Летась — Ян, і Ян — цяпер,
А праз год — зноў будзе Ян.
Ян— і бацька, Ян — і сын,
Сынаў сын — таксама Ян. ZA — 17034



*Пойдзем, хлопцы і дзяўчаты,*
*Грамадой калядаваць!*

Набліжаліся каляды —
Бочку піва ставіла,
Бо вядома, што каляды
Аж тры дні святкуюцца. ZA — 13628

Дзень калядны к нам прыехаў —
Саначкі распісаныя.
Ну, выходзьце ўсе прымаць
Коніка каляднага! ZA — 13515

Сто буханак напякла,
Каляду чакаючы.
Тым жа вечарам сышліся
Сотні дзве каляднікаў. ZA — 13550

Што мы, дзеткі, будзем есці
На каляды вечарам?
Я пірог не дагледзела —
З двух канцоў падпалены. ZA — 13566

Ты прыходзь, сястра, у госці
На каляды вечарам:
Будзе боб, гарошак будзе,
Лычык парасячы. ZA — 13555

Да мяне прыходзьце сёння,
Будзем шчасце выліваць:
Мой дзядулька вельмі добры —
Даў ад порткаў гузікі. KA — 33286

Пойдзем пчол паслухаем
На каляды вечарам:
Пчолы ладам спеў вядуць —
Будзе лета цёплае. ZA — 13593

Пойдзем, хлопцы і дзяўчаты,
Грамадой калядаваць —
Каб буяла ў полі збожжа,
Каб авечак множылася. ZA — 14006

Добры вечар, гаспадыня!
Ці каляднікаў чакала?
А калядніці замерзлі,
Па дарогах ходзячы. ZA — 13777

Ідучы калядаваць,
Кажушок напяльваю:
Дзе дадуць паесць, папіць,
А дзе кіем выправяць. ZA — 13716

Ты скачы, мядзведзь, скачы!
Гаспадыня шчодрая:
Дасць і сальца, дасць і хлеба,
Дасць і грошай жменьку. GP — 33365

Не пужайся, гаспадыня,—
Цыганы мы — люд рахманы.
Мы лагодна завіталі
І далей лагодна пойдзем. ZA — 13793

З добрым сэрцам гаспадыня —
Бо каляднікаў вітае;
А каторая, што скупіцца,
Дык за печ хаваецца. ZA — 13811

Гаспадыня бедавала:
Процьма-цьма каляднікаў!
Не бядуй ты, гаспадыня,
Бо ужо наеўшыся. ZA — 13877

Гаспадыня чухаецца:
Мяса даць не хочацца;
Чухайся не чухайся,
А мяском падзелішся. ZA — 14062

Ай, вялікія каляды —
Пасталоў і не набрацца:
Восем пар ужо стаптана
І падзерла туфлікі. ZA — 13631

Ну паелі, папілі,
Час і зычыць шчасцейка:
Хай у полі на сцяблінах
Каласы падвояцца. ZA — 14215

Ну, каляднікі, выходзім,
Чапялой пакуль не гоняць.
Гаспадыня шчодрая,
Частавала шчыранька. ZA — 14234

Туп-туп, ножкі,—
Ў госці ідзём!
Шлум-шлум, ножкі,—
З гасцей брыдзём. E — I — 3111

*Ой, не ўсе прыйшлі дахаты,*
*На вайну хто выпраўлены!*



Гадавала мяне маці,
Каб карміў на старасці.
Выпесціла, выняньчыла
Ды цару ў салдатчыну. GP — 32107

Ай, браточак, родны братка,
Ты бяры свой меч сталёвы,
Да мяжы ідзі да прускай,
Барані зямельку продкаў! GP — 31903

Ай ты, божа, што рабіці? —
На вайну мне ладзіцца.
Застанецца гнеды конік,
Малады, не ўезджаны.
Застанецца шапачка,
Куплена, не ношана.
Застанецца дзеванька,
Змоўлена, не венчана.
Возьме хто нявестачку,
Хай бярэ і коніка,
Хай бярэ і коніка,
Носіць маю шапачку. KA — 31907

Ой, не ўсе прыйшлі дахаты,
На вайну хто выпраўлены!
Іншых матанькі абдымуць,
А па іншых сплачуцца. GP — 32122

Ай, паны, вы мне скажыце,—
Дзе вы любага падзелі?
Сотню хустак я наткала,
Любага чакаючы. Е — Х — 1525



*Лёг араты спачываці*
*На вякі на вечныя.*



Адыходзіць маладосць
За пагорак з песнямі;
Старасць цягнецца нізінай,
Падыходзіць вохкаючы. GP — 27269

Маладому ўсюды ўцеха;
Чым старому ўцешыцца?
У старога ўсёй уцехі —
Печачка напаленая. GP — 5278

Эй ты, старасць ты, старэчасць,
Як жа ты падкралася?
Каб угледзеў, як крадзешся,—
Адпіхнуў далонямі. GP — 27300

Час прыйшоў мне ў дол лажыцца
На пясчаны ўзгорачак:
За сахой мае ўсе ўнукі,
У млыночку ўнучанькі. КА — 27361

Памірала, не памерла,
Бо зямля замерзлая.
Дай мне, бог, тады памерці,
Бэз калі распусціцца. КА — 27381

Дай жа, божа, так памерці,
Як і татка, маманька:
Татка — жыта малаціўшы,
Мамка — цеста месячы. КА — 27687

Я не ведаю — ці скора,
А памру я ў свята зранку,
А памру я ў свята зранку —
Хай у будні ўсе працуюць. КА — 27355

Ай, смертухна, смертухна,
Ты за што мне помсцішся?
Узяла маю дачушку
І к сынку цікуешся. Е — Х — 4519

Мне матулька хусткі ткала
І пра лёс мой думала.
— Тчы мне посцілку, матулька,
Час мне ўжо на ўзгорачак. КА — 27365

Ты, матулька, не старайся,
Хусткі белыя не тчы:
У пясочку на пагорку
Дзірваном укрыюся. КА — 27367

Што па мне, матулька, плачаш,
Чым цябе я цешыла?
І калені адсядзела,
Адляжала ручанькі. Е — Х — 4525

Горка плача маманька,
Мне кашулю мераючы.
Ой не плач ты, маманька,
Мераць больш не прыйдзецца.
Е — Х — 4591

З галубком паслала вестку
Ўсім далёкім родзічам:
Прыйдуць хай мяне праводзіць
На пясчаны ўзгорачак. RD — 273 с.

Я звязала рукавіцы,
Возьме хто — не ведаю;
Той, хто крыж мой панясе,
А ці дол хто выкапае. GP — 7210

Што, мой муж, ты горка плачаш,
Нада мною стаячы?
Возьме бог мяне — бяры
Ты другую жоначку. KA — 27352

Слёзна плача ўдованька,
Над сахою стоячы:
Ёсць саха і ёсць кабылка,
Ды няма аратага. E — X — 4306

Як сыны памерлі, дочкі,
Дык нагам была бядота.
А памёр як мой араты,—
І галоўцы ліханька. E — X — 4376

Дай мне, божанька, зямелькі,—
Многа не спатрэбіцца:
Толькі сажань даўжынёю
І аршын ушыркі. KA — 27542

Што набыў, што зарабіў,
Жывучы пад сонейкам?
Шэсць кавалкаў белых дошак
І зямелькі сажаньку. GP — 27564

Пахавайце ля дарогі,—
Я рабіў калеснікам;
Колы, коцячыся міма,
Скажуць: спіць наш майстарка KA — 27399

Мамка ўчора мяне ўкрыла
Беленькаю хусткаю;
Сёння брацейкі ўкрываюць
Дзірваном зялёненькім. GP — 27590

Тут саха і барана,
А няма аратага:
Лёг араты спачываці
На вякі на вечныя. RD — 309 с.

Мне нішто не замінае
Спачываць на ўзгорачку:
Міма ціха йдуць кароўкі,
Пастушкі, спяваючы. RD — 299 с.

Спачывай спакойна, мамка,
На пясчанай горачцы:
Многа ночак ты не спала,
Нада мной схіліўшыся. RD — 295 с.



*Не гарыць, загас агеньчык,*
*Мамка мілая памерла.*



Калаўрот больш не спявае,
І клубок не коціцца,
І няма матулькі роднай
У куточку цёпленькім. RD — 308 с.

Мне здалося — сонейка
Памеркла:
То мая матуленька
Памерла.
Мне здалося — дождыкі
Праліліся:
То сірочы слёзанькі
Паліліся. KA — 27442

Не гарыць, пагас агеньчык,
Мамка мілая памерла.
Па агонь схаджу я ў вёску,
А куды — па маманьку? GP — 3937

Сонца яснае, зямелька,
Вы за што караеце?
Ну, зямельку ўсё таптала,
Чым жа сонцу шкодзіла? KA — 27580

Я гляджу, гляджу на сонца —
Быццам маманька мая:
І прыгрэе, памілуе —
Толькі слоў не вымавіць. GP — 4371

Сонца коціцца на захад —
Засталася я ў цяньку.
І няма маёй матулькі,
Каб на сонца вывела. Е — III — 2696

Сонца нізка, сонца нізка,
А далёка маманька;
Я ганюся — не дагнаці,
Клічу, клічу — не вярнуць. GP — 4352

Пачакай хвілінку, сонца,
Што ў цябе я папрашу:
Занясі маёй матульцы
Сто паклонаў нізенькіх. Е — III — 2701

Як матуленька будзіла,
Я спрасонку плакала;
Я цяпер без слёз устала б,
Ды не будзіць маманька. КА — 4753

Ты, зязюленька, кукуеш,
Ты кукуеш, а я плачу;
Ты бядуеш па гаёчку,
Плачу я па маманьцы. Е — III — 2669

Як матулька памірала,
Прамаўляла, павучала:
— Ты рыхтуй пасаг, дачушка,
Свой вянок шануючы. GP — 4750

Лепш, каб татка мой памёр,
Чым матулька мілая:
Татка ўзяў другую жонку,
Я — сіротка круглая. Е — III — 2679

Абярнулася кашолка,
Раскаціліся клубкі.
Як памерлі татка, мамка,
Мы ўсе дзеці — хто куды. Е — III — 2845

У адным памерлі годзе
Татанька і маманька;
Тры гады па татку плачу,
А ўвесь век па маманьцы. Е — III — 2675

І здалёку я спазнаю,
Дзе ідзе сіротанька:
Ногі босыя, без хусткі,
Слёзы з вочак сыплюцца. Е — III — 3314

Шчокі белыя ў сіроткі,
Не вадой абмытыя —
Іх слязамі кожным ранкам
Абмывала, плачучы. Е — III — 3293

На пагорку купінка,
А на ёй расіначкі;
Не расіначкі, а слёзы
Сірацін без маманькі. Е — III — 3291

Сіраціна-небажатка
Цяжка хусткі зарабляе:
Круціць жорны правай ручкай,
Левай — слёзы выцірае. Е — III — 3643

Ай, жыццё маё — бядота,
Як цябе я вытрываю?
Потам вымыла кашулю,
Слёзкамі прасціначку. КА — 3921

Хто не топча тую траўку,
Ля дарогі што расце?
Хто не крыўдзіць сірацінку,
Без матулькі што жыве? E — III — 3056

І не ўсім так шчасціць з мамкай,
Як мне шчасціць з мачахай:
Як падыдзе — дапаможа,
Прэч ідзе — парадзіўшы. GP — 4198

У мяне пытае золак:
— Сірата, ці ўсё змалола?
— Ясны золак, не змалола,
Жорны надта сцёртыя. ZA — 4419



*Мамка, як мяне расціла,*
*Сыну Сонца абяцала.*



Не скажу, хоць добра знаю,
Дзе начамі Сонца спіць:
На бугрыне ў сінім моры
На каменьчыку ляжыць. Е — І — 1968

Сонца яснае, скажы нам,
Дзе ты мора пераходзіш?
Не відаць, каб йшла па мосце
Ці ступала кладкамі. КА — 33736

Сонца конікаў купае
Ў хвалях мора сіняга,
У руках трымае лейцы,
На пагорку седзячы. КА — 33944

Сонейка выходзіла,
З морам каб пабавіцца:
Сонца хустачку кідала,
Мора — пену белую. КА — 32920

Ты аб чым бядуеш, Сонца,
Вечарам хаваючыся?
— Пояс мой упаў у Мора,
Аж на дно глыбокае. ZA — 10101

Сонца ўчора аж іграла,
Сёння — спахмурнелае:
Сонца ўчора нам свяціла,
Сёння — служка сонцава. КА — 34024

Што ты, Сонца, позна ўсходзіш,
Дзе так доўга ты было?
— За гарамі я дзяліла
Сірацінячкам цяпло. КА — 4358.3

Сонца — родная матулька,
Саграваe раніцай;
Месяц — татанька мой родны,
Свеціць мне ўсю ночаньку. ZA — 10422

Сонейка і Месячык
На адным канёчку ездзяць:
Толькі Сонца рассядлае,
Зноў сядлае Месячык. ZA — 10423

Ты куды спяшаеш, Месяц,
У накідцы зорчатай?
— Пасабляць спяшаю людцам,
Робяць што без Сонейка. ZA — 10443

Сонца Месяц лупцавала,
За ражок трымаючы,
Бо запозна выйшаў ноччу
Асвятляць зямельку. ZA — 10424

Мамка, як мяне расціла,
Сыну Сонца абяцала,
А пазней абдумалася —
Выдала за Месяца.
Як, матуленька, мне жыці,
З Месяцам пабраўшыся? —
Месяц вельмі зменлівы:
Маладзее, старыцца. КА — 33843

Маці Снегу, Маці Снегу,
Вытрасай свае падушкі,
Хай сняжок зямельку ўкрые,
Хай у лес браточкі едуць. ZA — 12604

Пэ́ркан *, Пэ́ркан, старычына,
Што тваe дачушкі робяць?
— А дачушкі йдуць за мною,
Часты дожджык рассяваюць. ZA — 10524

Хто грукоча, хто грыміць,
Гул ажно разносіцца?
— То каваль куе на небе,
Жар ляціць у Даўгаву. ZA — 10489

Людзі елі і пілі,
Бог цішком падслухваў.
Бог цішком падслухваў,
Пра яго ці ўспомнілі? E — IX — 4796

Божа, што з табою будзе,
Людзі ўсе як паўміраюць?
Ні ў цябе дзяцей, ні жонкі —
Хто падасць нябогаму? GP — 33678

Кожны дзень вада і камень
Ў бой ідуць, змагаюцца:
Хваляй б'е вада у камень,
Камень лоб абтрэсвае. ZA — 12824

Каб была такою Ла́йма **
Як мая матуленька,
Я такую долю мела б,
Што самой захочацца. E — I — 2042

---

* Пэ́ркан — міфічны бог грому і маланак (Пярун).
** Ла́йма — міфічная багіня лёсу чалавека.

Той дзяўчыне шчасціцца,
Што пад Сонцам родзіцца:
Лайма ёй даруе сакты,
Серабром пакрытыя. E — I — 2029

Ты ідзі наперад, Лайма,
Я — тваёй дарожкаю.
Ногі каб не заблудзілі
На крывую сцежачку. RD — 105 с.

Ты прызнач жыццё мне, Лайма,
Тое, што надумаеш:
Як шчаслівае — даўгое,
Цяжкае — кароткае. E — I — 2059

Дай мне, Лайма, што захочаш,
Толькі двух вякоў не дай:
І адзін век выжыць цяжка,
А другі яшчэ цяжэй. E — I — 2058

Даўгава ўсё хваліцца:
— Я дачка багатая!
— Раз дачка багатая,
Што ж ты к Мору гонішся?
— Як не гнацца к Мору мне,
Мора — мая мамачка. KA — 30958.1



# Вяртанне голасу

У ліпеньскім нумары «Полымя» за 1929 год упершыню напаткаў імя беларускага паэта з Латвіі: згадвалася, што чыгуначны рабочы Пятро Сакол толькі што выдаў у Рызе зборнік вершаў «На світанні». Аднак, чытаю далей, гэта не першае выступленне маладога хлопца. Яшчэ ў 1926 годзе ён прымаў удзел у выданні зборніка маладых паэтаў «Першы крок», а да гэтага змяшчаў свае вершы ў перыёдыцы.

Потым у рыжскай бібліятэцы я ўсё ж адшукаў згаданыя кнігі, а пазней знайшоў адрас і самога Пятра Сакола — Пятра Аляксандравіча Масальскага.

Ён нарадзіўся 1 ліпеня 1905 года ў мястэчку Пасінь Люцынскага павета Віцебскай губерні (цяпер в. Пасіене Лудзенскага раёна Латвійскай ССР). У 1919 годзе тут усталявалася Савецкая ўлада. Калі падлетак вучыўся ў Себежы, трапілася яму на вочы кніжачка «Тарас на Парнасе». Неўзабаве адбылося і першае «літаратурнае выступленне» Петрака — у люцынскай кірсе, на мітынгу. Яго паставілі на табурэцік, і Пятрок прачытаў на памяць усю паэму ад пачатку да канца.

У пятнаццаць гадоў — першыя спробы «нешта мудрыць». Адразу пачаў з п'есы. Але больш удаваліся вершы. Нялёгкае жыццё працоўнага чалавека ў буржуазнай Латвіі дыктавала такія радкі:

*Садзяць у турмы нас, гнояць,*
*за краты схаваўшы.*
*Але дарэмна тыраны*
*сусвет павучыннямі ткуць!*
*З нашых радоў,*
*пурпуровым штандартам з'яднаных,*
*Ў змену загінуўшым —*
*новых мільёны ідуць! —*

пісаў паэт у вершы «Свята працоўных» (Дзвінск, 1. V. 1927 г.).

Галоўная тэма яго творчасці была і заставалася такою: самаўсведамленне асобы ва ўмовах нацыянальнага і сацыяльнага ўціску, барацьба пралетарыяту, невыносныя пакуты латгальскага сялянства.

Сам Пятро Масальскі змог закончыць толькі два класы гімназіі: трэба было зарабляць на пражыццё. Ужо ў Рызе вытрымаў іспыты за два апошнія класы гімназіі і вечарамі стаў вучыцца на Беларускіх настаўніцкіх курсах. Але доўга працаваць настаўнікам не змог: за ўдзел у рабочым руху, у барацьбе прафсаюзных арганізацый, якімі кіравалі камуністы, быў пазбаўлены буржуазнымі ўладамі Латвіі права выкладання. Пятро Масальскі зноў вымушаны чакаць на біржы працы выпадковага заробку. Толькі ў 1936 годзе ён атрымаў месца рахункавода на фанернай фабрыцы.

І ўсё ж у самых неспрыяльных умовах паэт-рабочы не кідаў пяра. У 1935 годзе ён зрабіў смелую спробу падрыхтаваць зборнік перакладаў латышскіх народных песень — дайнаў. Тады яшчэ ўвогуле ніхто іх не перакладаў. Але выдаць зборнік ва ўмовах ульманісаўскай рэакцыі не давялося. І толькі ў 1979 годзе падборка дайнаў у перакладзе П. Масальскага ўбачыла свет у штогодніку «Далягляды».

Гэта акрыліла Пятра Аляксандравіча. Ён зноў пачаў перакладаць, дапрацоўваць ранейшыя пераклады дайнаў. І толькі адправіўшы рукапіс вось гэтага зборніка ў Мінск, згадзіўся пайсці ў бальніцу, легчы на аперацыйны стол. Але і дзве аперацыі не прынеслі паратунку: на 81-м годзе жыцця яго не стала.

Творчая спадчына Пятра Масальскага невялікая: адзін зборнік вершаў, асобныя пераклады твораў рускіх, украінскіх паэтаў, пераклады латышскай прозы і паэзіі, народных казак... Але ёсць у гэтай спадчыне такое, што пазначана першынством. Пятро Масальскі быў першым перакладчыкам вершаў Яніса Райніса, першым перакладчыкам на беларускую мову такіх пярлін латышскага фальклору, як дайны. Будзем жа ўдзячны яму за гэта, захаваўшы ў памяці імя чалавека-працаўніка.

*Сяргей Панізнік*

# Змест

**Дайны:** Латыш. нар. песні./Укла-
Д 14 данне: пер. П. Масальскага; Прадм. М. Абалы; Паслясл. С. Панізніка; Маст. У. Шышкоў.— Мн.: Маст. літ., 1987.— 175 с.: іл.

Зборнік латышскіх дайнаў знаёміць з песенным фальклорам суседняга народа. Тэматычна дайны выяўляюць жыццё чалавека, сямейныя і бытавыя адносіны, абрадавыя звычаі.

ББК 82.3Лат-6

Д $\frac{4702340200-013}{М302(05)-87}$ 151—86



# ДАЙНЫ

*Латышские народные песни*

*СОСТАВИТЕЛЬ*
*ПЕТР АЛЕКСАНДРОВИЧ МОССАЛЬСКИЙ*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар *В. С. Сёмуха*
Мастак *В. Л. Шышкоў*
Мастацкі рэдактар *А. І. Цароў*
Тэхнічны рэдактар *Л. М. Шлапо*
Карэктар *А. Т. Глушчанка*

ІБ № 2556
Здадзена ў набор 15.01.86. Падп. да друку 26.09.86. Фармат 84×90¹/₃₂. Папера высокамастацкая. Гарнітура «Балтыка». Высокі друк. Ум. друк. арк. 7,70. Ум. фарб.-адб. 38,29. Ул.-выд. арк. 6,96. Тыраж 2300 экз. Зак. 2126. Цана 1 р. 40 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

